PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 15 (2030) ГОД XL БЕЛАСТОК 9 КРАСАВІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## У Гарадку жывуць па-гарадскому

У першы дзень вясны, 21 сакавіка, пры выездзе з Беластока неба раптоўна пачарнела, узняўся вецер і пасыпаўся ні то снег, ні то град. Прырода спахмурнела і стала непрывабнай.

А ў Гарадку — ізноў сонца. І ў доме культуры сардэчна сустракае нас дырэктар Тамара Бурачэўская, наша добрая знаёмая. Усюды ў яе тут парадак і чысценька, як мала ў якім асяродку культуры.

— Шкада, што не прыехалі вы ў нядзелю, 19 сакавіка, — кажа Тамара мне і Мірцы Лукшы. — Мы тут а чатырнаццатай адкрылі выстаўку сухіх букетаў аўтарства Марыі Мялешкі, штатнай мастачкі, якая працуе ў нас. Ты ж яе, Ада, ведаеш.

І зараз жа Тамара вядзе нас на выстаўку. Чаго тут няма! На фоне белых стэндаў розныя нібы-дрэўцы, сухія кветкі ў рамках, кампазіцы ў слоіках, вазачках, збанках, кошыках, вянкі, аздобленыя чарпак і рэшата, ды нават капялюш з сухімі кветкамі і травамі. Усё гэта вычаравала сваімі рукамі маладая, таленавітая мастачка са станцыі Валілы.

— Во бачыш, было і шампанскае, — паказвае Тамара Бурачэўская на накрытыя столікі. — Як гэта заўсёды бывае на вернісажах.

Уся мясцовая культура канцэнтруецца вакол гэтай культурнай установы. Перш за ўсё гэта нейкае прыстанішча для дзяцей і моладзі. Тут яны могуць пагуляць у пінг-понг, у шахматы, шашкі. Тут адбываюцца заняткі мастацкага гуртка, дзе дзеці вучацца маляваць. Вядзе яго тая ж Марыя Мялешка. Тут адбываюцца розныя сходы, дыскатэкі, вечарыны. У мінулым годзе вельмі гучна адсвяткавалі 40-годдзе гарадоцкага хору, а ўжо ў маі плануюць адзначыць юбілей 20-годдзя хору з Меляшкоў. Хочуць зрабіць святкаванне ў Гарадоцкім доме культуры, бо тут прасторней і людзей збярэцца больш, а выступленні меляшкоўскіх жанчын плануюць спалучыць з іхнім хорам, каб было ямчэй, бо меляшкоўскі калектыў у апошні час значна прарэдзіўся. Мае быць супольная праграма ўрачыстага канцэрта.

Гутарым з Тамарай у аўторак, 21 сакавіка, а 24-ага мае тут адбыцца другая частка конкурсу на тэму гісторыі Гарадка. Пытанні падрыхтавалі яна, Тамара Бурачэўская, і Лёнік Тарасэвіч. Вельмі важна для іх, каб наблізіць гісторыю Гарадка ўсім жыхарам, а не толькі зацікаўленым адзінкам.

У той жа дзень, у пятніцу, мае адбыцца чарговы сход мясцовага гуртка Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Такія сходы праводзяцца тут рэгулярна. А дзе ж ім сабрацца?! — больш сцвярджае, чым пытае дырэктар дома культуры.

А ў нядзелю, 26 сакавіка, збіраецца Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі. У праграме даклад Сакрата Яновіча: „Кастусь Каліноўскі — праўда і легенда".

Думаеце, лёгка схавацца дзесьці і спакойна пагутарыць з Тамарай? Прыйшоў інструктар па спорту і рэкрэацыі Юры Янюк. Закупіў нейкае абсталяванне для сілоўні, якая працуе тут ужо год і тры месяцы. Наракае, што ёсць грошы, але купіць за іх занадта не было чаго. Купіў гантэлі і яшчэ нейкую дробязь, а моладзі ж прыходзіць шмат.

Хочуць адцягнуць маладых людзей ад наркаманіі?! Не, пра наркаманаў не чуваць, але лепш, каб маладыя людзі ведалі, што з сабой зрабіць, сцвярджае Тамара.

Заглянуў войт Гарадоцкай гміны Яўген Семянюк. Добры войт добрай гміны! Для яго культура — гэта справа першага плана. Нешта абмяркавалі з дырэктарам дома культуры, пакуль я аглядала выстаўку. Зрабіў з намі пару здымкаў, схапіў са стала вафлю ў шакаладзе — і ўжо яго няма.

Прыйшлі глянуць на выстаўку сухіх кветак мясцовая лекарка і медсястра Раіса Дылько, шматгадовая ўдзельніца гарадоцкага хору. Гавару з лекаркай-беластачанкай па-беларуску і для яе гэта зусім зразумела.

Пачалі збірацца дзеці. Відаць, ужо скончыліся заняткі ў школе, дык прыйшлі развіваць свае дзіцячыя таленты. У святліцу з выстаўкай забеглі дзве дзяўчынкі — Крыся Крупіцкая і Мілена Байко. Яны прыйшлі на заняткі ў мастацкі гуртох. Вельмі любяць маляваць! А пакуль што ходзяць, усё дакладна аглядаюць.

Ужо ў сваім пакоі Тамара Бурачэўская кладзе перада мною свежанькую газету, якая выйшла толькі ўчора. Першы нумар газеты „Wiadomości Gródeckie — Haradockija Nawiny" — газеты, як пішацца ў падзагалоўку, пра Гарадоцкую зямлю і яе жыхароў. Другі нумар мае выйсці перад Вялікаднем. Ёсць тут пра слаўных людзей гэтай зямлі — пра род Хадкевічаў, стваральнікаў друкарняў у Супраслі і Заблудаве, пра кіраўніка паўстання 1863 г. і аўтара „Мужыцкай праўды" Кастуся Каліноўскага, пра даваенных паэтаў Янука Дарашкевіча (псеўданім „Каршун") і Сцяпана Пятэльскага (псеўданім „М. Арол") ды сучаснага пісьменніка Аляксея Карпюка. Ёсць і пра звычайныя людскія справы штодзённага жыцця — пра працу гміны, падаткі, цэны. Ёсць і фельетон Лёніка Тарасэвіча „Страх кацапа" — напісаны па-беларуску, хаця і лацінкай, на апошняй старонцы ёсць крыху гумару.

Не адзінае гэта выданне ў Гарадку. Ужо быў выдадзены буклет пра гарадоцкі хор (на яго саракагоддзе), цяпер рыхтуецца другі — пра меляшкоўскі хор. Усім гэтым займаецца гмінная камісія асветы і культуры.

Самы непасрэдны ўдзел прымае ў гэтых працах таксама Гарадоцкі дом культуры, дырэктарам якога ўжо 10 гадоў працуе Тамара Бурачэўская. 1 ліпеня мінае 35 гадоў яе працы, якую пачынала на пасадзе кіраўніка гміннай бібліятэкі.

Бурліць жыццё ў доме культуры. У Гарадку жывуць па-гарадскому.

**Ада Чачуга**



*Нарэшце і мне пашанцавала сфатаграфавацца з гарадоцкім войтам. А здымак зрабіла Міра Лукша.*



*Дырэктар Гарадоцкага дома культуры Тамара Бурачэўская на выстаўцы сухіх кветак Марыі Мялешкі.* **Фота Ады Чачугі**



*Крыся Крупіцкая (злева) і Мілена Байко прыйшлі на заняткі мастацкага гуртка.* **Фота Ады Чачугі**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Dokonuje się obecnie podział stref wpływów głównych mafii świata. W tym procesie dominującą pozycję wyrabia sobie mafia rosyjska. Skupia ona 5 400 organizacji i ma swoje przedłużenia w krajach europejskich i USA. Stanowi niemal kompletną paralelną strukturę władzy w państwie. Zdolna jest ściągać „podatki” skuteczniej niż oficjalne państwo i zapewnić ochronę podmiotom gospodarczym. W strukturach mafii tkwią politycy najwyższego szczebla władzy, banki i kierujący siłami zbrojnymi. Według zagranicznych ekspertów mafia rosyjska jest partnerem w 80 proc. wszystkich joint ventures z zagranicą, kontroluje co trzeci bank w Rosji. Bankierów do współpracy z mafią przekonały duże zyski płynące z prania brudnych pieniędzy Europy i Ameryki. 30 dyrektorów rosyjskich banków, którzy okazali się odporni na propozycje nie do odrzucenia ze strony mafii, nie żyje.*

*(Polityka, nr 10)*

***

*Przybycie na Białoruś każdego nowego księdza z Polski powoduje rozdrażnienie wśród przeciwników odrodzenia katolicyzmu i polskości* **na naszej ziemi**, — піша

*(Głos znad Niemna, nr 9; organ prasowy Związku Polaków na Białorusi)*

***

*W szkole Przemysław Wałęsa był uważany za dobrego ucznia i kolegę. Jego dziewczyną była Joanna Juszczak, uczennica klasy o rok niższej. 10 listopada zadzwoniła do Przemka, że jest w ciąży. Przemek wypił kilka fikołków, wsiadł do samochodu i pojechał do Joanny. Po drodze spowodował wypadek, którego ofiara, Maciej Ziemiński, do tej pory nie odzyskał sprawności fizycznej. Potem była ucieczka z miejsca wypadku, czynna napaść na policjantów — łącznie 10 zarzutów. Proces Przemysława Wałęsy rozpoczął się w czerwcu 1994 r. i nic nie wskazuje na to, że szybko skończy się. Obrona przedstawia różne ekspertyzy. Tymczasem młody Wałęsa ma już miejsce w historii polskiego wymiaru sprawiedliwości jako „ofiara pomroczności jasnej”. Danuta Wałęsowa uważa, że gdyby Przemek został skazany nie byłoby sprawiedliwości na świecie.*

*(Wprost, nr 12)*

Бедны Пшэмэк, наяўна крыўдзяць прэзідэнцкага сына.

***

*Па сведчанні праваахоўных органаў Расійскай Федэрацыі, у гэтай краіне ці не кожны дзень нехта гіне ад рукі незнаёмага забойцы. Ёсць попыт на такі від паслуг. Сёння заказное забойства ў Расіі — рэч абсалютна звычайная. (...) Наш прэзідэнт сп. Лукашэнка усур'ёз намерыўся „воссоединить” Беларусь з Расіяй. Адсутнасць мяжы ўжо сёння стварае „адзіную крымінальную прастору”.*

*(Літаратура і мастацтва, н-р 10)*

***

*Syfilis szaleje w Ałma-Acie,* — інфармуе *(Gazeta Współczesna, nr 54)*

***

*Sejm głosami posłów lewicy opowie się za konkordatem. Premier w młodości pragnął zostać księdzem. Tak bardzo pociągała go polityka. Żołnierz kompanii honorowej, który idzie na mszę świętą — zdaniem księdza Prymasa — nie idzie się modlić, tylko wypełnić służbę. Obowiązek służby wojskowej jest zarazem obowiązkiem posługi religijnej.*

*(Polityka, nr 12)*

Wykonać!

***

*Wiceminister kultury Zdzisław Podkański (PSL) jako priorytetowe zadanie ministerstwa określił ratowanie dziedzictwa kultury ludowej. „To lepiszcze duchowe, które decyduje o tożsamości narodowej. Na przykład garncarstwo oraz tkactwo dwuosnowowe. — Jesteśmy w tej dziedzinie konkurencyjni i możemy zadziwić cały świat” — przekonywał.*

*(Wprost, nr 12)*

Калі ідзе пра ганчарства, віцэ-міністр мае цалкавітую рацыю. Нават у Палінезіі ўзровень вырабу гаршчкоў ніжэйшы, чым у нас. Аднак найпрыгажэйшыя конікі з саломкі робяць у Пружанах.

***

*Z najrozmaitszych systemów społecznych szkoła najbardziej przypomina zhierarchizowane społeczeństwo średniowieczne. Są trzy stany. Uczniowie (dawniej plebs), nauczyciele (szlachta), i katecheci (średniowieczne duchowieństwo). W ustroju feudalnym karnawał pozwalał zachować człowieczeństwo dla plebsu. W szkole funkcję tę próbuje pełnić Dzień Wagarowicza. W Warszawie tradycją tego dnia stało się upijanie się przy dźwiękach muzyki rockowej, wybijanie szyb butelkami od piwa, bójki z policją, itd.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 68)*

***

**Письмо президетну Беларуси Александру Лукашенку**

Почну с цитаты: Люди забросали меня письмами с вопросами: разве эту страну мы защищали под Сталинградом? Разве это наш гимн и флаг? Почему нас заставляют говорить на языке, на котором мы не хотим?..

Прочитал я в газете эти ваши слова, уважаемый Президент, и захотелось крикнуть: „Скажите, а под каким флагом везли белорусов в Соловки? Какой гимн заглушал выстрелы в Куропатах? Кто спрашивал моих родителей, на каком языке должен и хочет учиться их сын?

За полвека советская власть сделала меня умнее и многому научила. И я знаю то, чего может быть не знаете Вы: только мы, граждане Республики Беларусь, должны быть хозяевами на нашей белорусской земле. У нас есть руки, которые не боятся работы, есть головы, которые могуть думать. Только мы сами, без чужого „доброго” дяди сможем сделать счастливой жизнь наших детей и внуков, а не просто обеспечить им „колбасу в клетке” и нефть по „внутренним ценам”. Я никогда не смирюсь, если моя Беларусь станет частью любого другого государства, потеряет независимость и свободу. Я терплю и буду терпеть сколько нужно и какие угодно лишения, работать не покладая рук, без сна и отдыха, но лишь когда буду уверен в счастливом будущем своей Родины — Беларуси, а значит, и моих потомков. Я уверен, что за будущее детей и внуков люди отдадут самое дорогое — жизнь. У меня нет надежды, но я молюсь...

Божа міласцівы! Уратуй і зберажы родную маю Беларусь, а яшчэ: даруй тым, хто не ведае, што робіць.

**Здислав Вальнерович, 29 лет.**

*(Народная газета, н-р 46)*

За надрукаванне гэтага ліста быў звольнены прэзідэнтам з пасады галоўны рэдактар „Народнай газеты” Іосіф Сярэдзіч.




**Урады Польшчы і Беларусі** падпісалі 25 сакавіка г.г. у Варшаве пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне аховы супольнай культурнай спадчыны. Бакі прызналі мэтазгодным падтрымку перакладаў літаратуры і ўзаемнай прэзентацыі музычных і драматургічных дасягненняў (восенню ў Менску адбудзецца прэм'ера оперы „Парыя” Станіслава Манюшкі).

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава** пабываў у Брусэлі па запрашэнню **архіепіскапа Брусэлі і Бельгіі Сімана**. Уладыка Сава ўзначаліў набажэнствы ў брусельскім кафедральным саборы і наведаў польскае пасольства. У Бельгіі працуе многа праваслаўных з Беласточчыны.

**Галоўная рада Саюза ўкраінцаў у Польшчы** адмоўна ацаніла ўрадавы праект закона аб раздзяржаўленні маёмасці, канфіскаванай у 1944—1962 гадах, які не прадугледжвае звароту маёмасці натурай, што на практыцы закрывае ўкраінцам шлях да вяртання маёмасці, страчанай у выніку акцыі „Вісла”. Рада выказала таксама сваю незадаволенасць з прычыны адхілення Сеймам прапановы прызнаць ветэранскія правы украінцам, рэпрэсіраваным у 1947—1949 гадах у канцлагеры Явожна. Украінская меншасць патрабуе стварэння Цэнтра ўкраінскай культуры і Украінскага музея ў Пярэмышлі.

**Сувальскі віцэ-ваявода Ян Камінські** пасля размовы з паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы **Георгіем Таразевічам** заявіў, што яшчэ ў гэтым годзе беларускі бок пачне работы па рэканструкцыі суднаходнага Аўгустоўскага канала, што ў будучым стварыць магчымасць адкрыцця міжнароднага вадзянога шляху з аўгустоўскіх азёраў да Нёмана.

**У Верхнесілезскім музеі ў Бытаме і ў Галерэі сучаснага мастацтва ў Катавіцах адкрыты выстаўкі карцін Лявона Тарасэвіча.** Бытамская выстаўка называецца „Карціны 1983—1984” і будзе адкрыта да 28 мая. Другую выстаўку, азагалоўленую „Новыя работы”, можна наведваць да 23 красавіка г.г.

**Гарадская рада ў Беластоку** прыняла пастанову аб бясплатным карыстанні гарадскім транспартам грамадзянамі, якім споўнілася 70 гадоў.

**Пажарнікі правялі на вуліцы Беластока** акцыю абясшкоджання інсектыцыднага ядахімікату „Дэцыс”, які разліўся падчас транспарту. Згаданы атрутны сродак перавозілі нямецкія грузавікі з Францыі ў Растоў-на-Доне. Пажарнікам прыйшлося скантраляваць увесь груз з 800 бочак, каб выявіць чатыры няшчыльныя і забяспечыць іх. У ходзе акцыі адзін пажарнік з сімптомамі атручэння быў адвезены ў бальніцу.

**У Акруговым музеі ў Беластоку** адкрылася выстаўка экспанатаў са старажытнай калекцыі Нацыянальнага музея ў Варшаве. Наведвальнікі могуць паглядзець прадметы шырокага ўжытку з Месапатаміі, Егіпта, Грэцыі і Рыма, а таксама сапраўдную мумію.

**Беластоцкі мясакамбінат** прымаў удзел у кірмашы ў швейцарскім горадзе Базель. Найбольшую ўвагу наведвальнікаў прыцягнулі цвёрдыя вэнджаныя вяндліны, а некалькі аптавікоў намерваюцца імпартаваць вырабы беластоцкіх мяснікоў у Швейцарыю.

**Белавежу** наведала дэлегацыя леснікоў з Канады. Госці расказалі польскім калегам аб гаспадарцы ў сваіх мадэльных лясах і пазнаёміліся з лясной гаспадаркай у Белавежскай пушчы.

**У Белавежы** адбылося выязное пасяджэнне сенацкай Камісіі аховы асяроддзя. Сенатары пазнаёміліся з пытаннямі Белавежскага нацыянальнага парку перад святкаваннямі Еўрапейскага года аховы прыроды 1995.

**Два маладыя жыхары Саколкі** напалі ноччу на чыгуначным вакзале на грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, пабілі яго і забралі 6 тысяч рублёў і 50 долараў. На другі дзень паліцыя арыштавала злачынцаў, якія прызналіся да здзяйснення нападу.




> Рэпартаж Ганны Кандрацюк з Чыжоў.

> Барыслаў Рудкоўскі прызывае меліяратараў Беласточчыны на суд гісторыі.

> Творчасць нацыянальных меншасцяў — выстаўка ў Гданьску.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Некарыснае пагадненне

Савет Кантрольнай Палаты знайшоў шэраг парушэнняў заканадаўства ў пагадненні аб уваходжанні „Белтрансгаза” ў склад расейскага „Газпрома”. У прыватнасці было адзначана, што сам уваход „Белтрансгаза” ў „Газпром”, якім кіруе не дзяржаўны орган, а праўленне, фактычна абазначае акт раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці, у той час як прадпрыемствы трубаправоднага транспарту, да якіх адносіцца „Белтрансгаз”, раздзяржаўленню і прыватызацыі не падлягаюць. Акрамя таго доля Беларусі ў статутным фондзе „Газпрома” складае ўсяго 0,5%. Гэта, на думку Савета Кантрольнай Палаты, не дае рэальнай магчымасці ўплыву беларускага боку на прымаемыя акцыянерным таварыствам рашэнні. У выніку рэалізацыі гэтага пагаднення беларускі бок можа практычна страціць права на маёмасць „Белтрансгаза”.

### Еўрапейскі крэдыт

Еўрапейскі Савет выдзеліў Беларусі 97 млн. долараў для ўрэгулявання дзяржаўнага балансу краіны. Пазыка будзе складацца з двух частак. Першая будзе выдзелена адразу, другая — пазней, улічваючы інфляцыю.

### Выбары пад пагрозай

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандр Абрамовіч заявіў, што выбары новага саставу парламента Беларусі, назначаныя на 14 мая, знаходзяцца пад пагрозай зрыву. Прычына гэтага ў тым, што ўрад рэспублікі не пачаў фінансавання выбараў, хаця сродкі ў памеры 68 млрд. рублёў (6,5 млн. дол.) павінны былі быць пералічаны на рахунак Цэнтрвыбаркама ў канцы лютага. Абрамовіч паведаміў, што ў сувязі з адсутнасцю фінансавання члены Менскай выбарчай камісіі маюць намер разглядзець пытанне аб сваім самароспуску.

### Ваеннае супрацоўніцтва

Кабінет Міністраў прыняў рашэнне аб падпісанні пратакола паміж Міністэрствам абароны РБ і Міністэрствам нацыянальнай абароны Польшчы аб падрыхтоўцы спецыялістаў у ваенна-навучальных установах. Беларусь не мае яшчэ сваёй ваеннай акадэміі, а афіцэры найчасцей абучаюцца ў расейскіх ВНУ.

### Дэпутаты — супастаты

Група дэпутатаў звярнулася да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з просьбай ініцыяваць правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму па пытаннях аб адносінах насельніцтва РБ да афіцыйнай сімволікі з адначасовай абавязваючай прапановай аб перапрацоўцы новых сімвалаў РБ, а таксама па пытанню аб наданні рускай мове статуса другой дзяржаўнай мовы. Сярод тых, хто падпісаў гэтыя лісты — Міхаіл Качан, Барыс Гец, Леанід Прывалаў, Анатоль Новікаў, Анатоль Вайцешык, Уладзімір Кулакоў, Міхаіл Жукоўскі, Мікалай Дземянцей, Іван Трусаў, — усяго больш за 70 дэпутатаў.

### Хітрыя зборшчыкі

Некаторыя зборшчыкі подпісаў выбаршчыкаў у Брэсце выдаюць сябе за электрыкаў і просяць распісацца ў ведамасці за нейкія тэхнічныя паслугі, затым яны пры бліжэйшым разглядзе аказваюцца... палітычнымі. Зразумела, акруговыя выбарчыя камісіі не пакінуць такія факты без увагі.

### Піва, Беларусь, свабода!

На III з'ездзе Партыі аматараў піва вырашана, што выбарчая платформа ПАП будзе грунтавацца на трох асноўных лозунгах: піва, Беларусь, свабода. ПАП вылучыла на выбары ў Вярхоўны Савет 28 кандыдатаў.

### Хлеб у пашане

Яшчэ нядаўна дзеля задавальнення попыту насельніцтва ў хлебабулачных вырабах хлебазавод у Оршы выпускаў іх больш як 100 тон. З ростам цэн на хлеб значна панізіўся попыт на яго, але гэта не азначае, што аршанцы сталі менш ужываць хлеба. Спецыялісты лічаць, што зараз гэты прадукт ідзе прама па сваім прызначэнню, а не ў кармушкі хатніх жывёл.

### Бывайце, агуркі!

Раней у такі час у крамах Баранавічаў можна было купіць свежыя агуркі. Сёлета ж іх на прылаўках няма. З-за дарагоўлі энерганосьбітаў цяплічная гаспадарка калгаса „Чырвоны сцяг” засеяла агуркамі ўсяго палову плошчы і то са спазненнем. Толькі ў канцы сакавіка вітамінная прадукцыя паступіла ў крамы. Але наўрад ці па кішэні будзе яна звычайнаму чалавеку. Кожныя суткі гаспадарка плаціць за расейскі газ 35 млн. рублёў. А калі ўлічыць выдаткі на электраэнергію і іншыя, то адзін кілаграм баранавіцкіх агуркоў будзе каштаваць 50—55 тысяч руб. (5 дол.). За такія грошы, дарэчы, на рынку можна купіць любыя паўднёваафрыканскія далікатэсы.

### Прэзідэнт у судзе

Лідэр парламенцкай апазіцыі БНФ Зянон Пазьняк падаў у суд на прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнку. Падставай для звароту ў судовую інстанцыю паслужыла не адпавядаючая рэчаіснасці афіцыйная заява прэзідэнта пра тое, што Пазьняк заклікаў грамадзян Беларусі да ўдзелу ў баявых дзеяннях у Чачні на баку Дудаева.

# Вярнуць бацькоўскую зямлю

У рэдакцыю прыслала ліст жыхарка Белавежы Люба Аляксюк: „Дарагая рэдакцыя „Нівы”, пішу да Цябе з просьбай аб дапамозе. Мой бацька, Бакун Карп, купіў у Паўлоўскага пляц у Белавежы, цяпер вуліца Каляёва, 7. На гэтым пляцы бацька пачаў будавацца. У 1935 годзе бацька памёр. Пасля смерці бацькі збудаванне згарэла, застаўся толькі мур. У 1936 годзе на маёмасць уварваліся дзве сям’і: Богдан Ян (Каляёва, 3) і Міклашэвіч Юзаф (Каляёва, 5) і забралі большую частку пляца, разам з мурам, абкрадаючы сірот і ўдаву. Пабудаваліся без планаў і права на ўласнасць, усё рабілі за нашай спіной, а мы пра нішто не ведалі. Міклашэвіч Юзаф зрабіў, не паведамляючы нам, *заседжанне* (zasiedzenie). Сёння яны не жывуць, пляцы апусцелыя, а ў муры поўна п’яніц. Я хачу вярнуць бацькаву маёмасць. Дакументы куплі, якія Паўлоўскі перадаў бацьку, у мяне ёсць”.

Да нас пані Люба звярнулася на канец, калі судовая дарога аказалася безвыніковай. На доказ ранейшых старанняў да ліста далучыла адказы з Раённага суда ў Бельску і з адвакацкай канцылярыі. І Цывільнае аддзяленне Раённага суда ў Бельску паведаміла, што ранейшыя пастановы з’яўляюцца правамоцнымі, а менавіта: пастанова, прынятая ў 1975 годзе, якая сцвярджае, што Юзаф Міклашэвіч набыў права ўласнасці на гэты ўчастак зямлі праз *заседжанне* і пастанова ад 1983 года аб адхіленні заявы Любы Аляксюк аб звароце зямлі. Адвакат Мацей Грышкевіч паведаміў, што ў святле законаў узбудзіць новую справу ў Раённым судзе немагчыма, але можна звярнуцца ў Міністэрства юстыцыі з просьбай аб надзвычайнай рэвізіі ранейшых пастаноў.

Вось у такой сітуацыі я размаўляў з паняй Любай Аляксюк, у яе доме насупраць апусцелага чыгуначнага вакзала Белавежа-Палац.

— Я тут нарадзілася, але пасля вайны вучылася на заходніх землях, у Кавах каля Яленяй Гары. А потым працавала ткачыхай на заводзе „Біруна” ў Беластоку. Ад 1983 года я на пенсіі. Тады памерла мая мама і я пераехала жыць сюды, у Белавежу.

Люба Аляксюк жыве сама адна ў вялікай мураванцы, якую пабудавала з братам яшчэ ў 70-ыя гады. Па-суседску апусцелыя будыніны. Іхні стан можна акрэсліць: заавансаваная руіна.

— Юзаф Міклашэвіч і Ян Богдан былі швагры. Гэтага другога ўжо перад вайною паліцыя ганяла, бо быў злодзей. Пры саветах штосьці ўкраў, то яго забралі і ўжо больш не вярнууся. Міклашэвіч памёр зараз пасля маёй мамы, а Міклашэвічыха з пяць гадоў таму. І вось гэтая зямля, якую мой нябожчык бацька калісь купіў — пустая, а я не магу яе атрымаць назад. Мне ўжо самой гэтая зямля непатрэбная. Я яе хацела на царкву апісаць. То ж тут у Белавежы можна будзе яе выкарыстаць, ці нейкі дом апекі пабудаваць, ці што іншае карыснае нашым беларусам. Я вам скажу, я нават дзецям яе не хачу перапісваць, бо ў мяне дзеці з палякамі пажаніліся. Тут і так, у Белавежы, усё палякаў больш і больш. А нашы беларусы то таксама дзівакі, зямлю аддалі, мову аддалі, яшчэ толькі цэрквы засталіся.

Ці ёсць шанцы на вяртанне зямлі? Адвакат Мацей Грышкевіч кажа, што малыя.

— Восенню мінулага года напісаў я, ад імя пані Аляксюк, ліст у міністэрства, дык цяпер трэба чакаць адказу. Цягнецца гэта доўга, да года. Але нат, калі б міністэрства ўнесла рэвізію, то справу цяжка было б выйграць. У 1975 годзе Міклашэвічы прадставілі ў судзе двух сведкаў, Васіля Тарасевіча (тады 57-гадовага) і Данілу Пэршка (было яму тады 74 гады), якія пацвердзілі факт куплі зямлі з аўкцыёну ў 1936 годзе. Апрача таго ў Міклашэвічаў былі геадэзічныя планы, дзе яны лічыліся ўласнікамі. Плацілі таксама за ўчастак, якім уладалі, усе патрэбныя падаткі. А пані Люба Аляксюк на расправе ў 1979 годзе прадставіла рашэнне нейкага белавежскага суда ад 1927 года (я нават не ведаю, як ён называўся) аб прызнанні Карпу Бакуну участка „ў вёсцы Застава ад агарода Марыі Казадой да зямлі Мікалая Курачкі”, нават без вылічэння, колькі гэтай зямлі было. Я разумею тое, што пані Аляксюк адчувае крыўду. У яе разуменні зямля належала яе бацьку і цяпер павінна перайсці на яе, як спадкаемцу. Але суд кіруецца законамі, абапіраецца на важныя дакументы, таму прызнаў, што Міклашэвічы карысталіся зямлёй згодна з правам. У святле законаў ёсць малыя шанцы, каб суд цяпер змяніў сваю пастанову, пра што я і папярэдзіў паню Аляксюк.

Адказу Міністэрства юстыцыі трэба яшчэ пачакаць. Тады будзе відно, ці справа яшчэ раз вернецца ў суд. Люба Аляксюк згубіла давер да судоў, чыноўнікаў. Аднак іншай дарогі атрымаць зямлю, якая цяпер пры вуліцы Каляёвай у Белавежы, няма.

**Мікола Ваўранюк**

## Настаўнікі з Беласточчыны ў Мінску

З 20 па 28 студзеня 1995 года пяць настаўнікаў беларускай мовы з падставовых школ Беласточчыны было ўдзельнікамі курсаў павышэння кваліфікацыі замежных настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры ў Мінску. Арганізатарамі курсаў былі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь і Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына”. Дзякуючы гэтым установам мы правялі незабыўны і вельмі карысны тыдзень у мурах Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта.

Апрача настаўнікаў з Польшчы, у курсах прымалі ўдзел настаўнікі з Літвы, Латвіі, Эстоніі, і па аднаму з Малдовы, Украіны, Калінінграда.

Вельмі цікавымі былі лекцыі, якіх мы выслухалі за гэты кароткі час аж сорак гадзін. Лекцыі чыталі выдатныя спецыялісты, выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта і Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Мы таксама пачулі лекцыю на тэму працы на ўроках беларускай мовы ў пачатковых класах вопытнай настаўніцы Надзеі Сторажавай. Заняткі па фальклору настаўнікі замежжа змаглі паглядзець у Дзіцячым садку н-р 468. На жаль, не наведалі мы ўрокаў беларускай мовы ў школах.

Вельмі прадуманай была культурная праграма курсаў. Была яна вельмі шырокая і разнастайная. Хопіць успомніць незабыўную сустрэчу з пісьменнікамі Янкам Брылем і Вольгай Іпатавай. Пабывалі мы на вялікім святе ў тэатры імя Янкі Купалы — на сотай пастаноўцы драмы „Тутэйшыя”. Нячаста настаўнікі з маленькіх гарадоў і вёсак Беласточчыны маюць магчымасць пабываць у тэатры, а ў Мінску мы мелі магчымасць глядзець у Тэатры оперы і балета цудоўную пастаноўку балета „Спартак”.

Настаўнікі атрымалі ад сяброў „Бацькаўшчыны” і Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта многа кніжак па беларускай літаратуры, культуры і гісторыі. Змаглі яны таксама купіць некаторыя выданні ў кнігарнях.

На мой погляд вельмі карыснымі былі размовы з нашымі сябрамі з іншых краін. Мы маглі памяняцца сваім вопытам працы на ўроках беларускай мовы, а праблемы ў нас у многім вельмі падобныя.

З Мінска вярталіся мы з сумкамі поўнымі кніжак і ў вельмі добрым настроі. Не папсавала яго нават вельмі доўгае чаканне на мяжы (цэлую ноч).

Ад імя настаўнікаў з Беласточчыны хачу вельмі падзякаваць арганізатарам курсаў. Спадзяюся, што не былі яны апошнімі і што будзем сустракацца кожны год.

**Валянціна Бабулевіч**



## „Навіны” з Гарадка

У сакавіку гэтага года Гарадок далучыўся да ліку гмін, якія выпускаюць сваю мясцовую газету. Завецца яна *Wiadomości Gródeckie/ Haradockija Nawiny. Gazeta o Ziemi Gródeckiej i jej mieszkańcach*. Першы яе нумар датаваны лютым-сакавіком 1995 года. Аб’ём нумара: 12 старонак фармату А-4. Газета выходзіць на польскай і беларускай (лацініцай) мовах. Каштуе 50 грошаў.

Дарэчы на пачатку прыгадаць, што Гарадок быў першай гмінай, у якой выспела ідэя выдавання мясцовай газеты. Было гэта, як сцвярджаецца ў прывітальным слове рэдакцыі „Гарадоцкіх навінаў”, якіхсьці (?!) пяць гадоў таму. Газета называлася тады „Голас Гарадка”, а яе пачынальнікам і рухавіком была прыватная асоба — жыхар гміны, — Лявон Тарасэвіч з Валілаў.

Можна падумаць, што ўзнікненне цяперашнім часам у гмінах мясцовых газет выкліканае прагай улад пахваліць самых сябе, здабыць легітымнасць у сваёй грамадскасці, большы аўтарытэт... У сувязі з гэтым часта атрымліваецца так, што гмінная газета з’яўляецца віншавальнай адкрыткай, якую функцыянер па культуры размалёўвае для функцыянера па кіраўніцтву. Ці абавязкова кожная гмінная ўлада так менавіта ставіцца да ролі, было не было, сваёй прэсы?

Задачу стварэння „прэсавага органа” гміна найчасцей даручае камісіі культуры. Гэтак было і ў выпадку Гарадка ды „Гарадоцкіх навінаў”. Тое, што з думкай пра сваю газету ў гміне адбываецца далей, залежыць выключна ад членаў камісіі культуры. У Гарадку гэтая ж камісія ў канцы мінулага года выпусціла пробны нумар „Гарадоцкіх навінаў” і... сцвердзіла, што гэта не тое, што быць павінна. Пачаліся вонкавыя кансультацыі і пошук адпаведнай формулы. Ішло перад усім пра тое, каб газета ўжо ў сваім пачатку ўяўляла адпаведны ўзровень — адразу высокі, а не: *неяк зрабіць і пабачыць, што з гэтага будзе далей*. Завяршэннем гэтых намаганняў стаў выпуск першага (не пробнага) нумара „Гарадоцкіх навінаў” за люты-сакавік 1995 года.

Няма ў ім такіх, здавалася б, „натуральных” для інаўгуратыўнага моманту матэрыялаў як інтэрв’ю з войтам гміны, яе сакратаром, справаздачы з дзейнасці Управы. Ёсць затое нявузкая панарама праблем, якімі жыве Гарадоцкая гміна і ейныя жыхары. У рубрыцы „Інфармацыя з гміны” даведваемся, між іншым, пра клопат з тэлефонам у Мастаўлянах, абмежаванне чыгуначных маршрутаў на шляху Беласток—Зубкі-Беласточкія, шлях у прыватызацыю гарадоцкага прадпрыемства „Каго”, ці ініцыятыву курсаў, у выніку якіх гарадчане з пачатковай адукацыяй змогуць здабыць матуру.

Далей у нумары ідзе матэрыял пад загалоўкам „Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі”, які з’яўляецца тэкстам прамовы Лявона Тарасэвіча на ІІ Кангрэсе гэтага ж Таварыства ў лістападзе 1994 года. Галоўная думка прамовы такая, што Гарадок багаты ў традыцыю і гістарычныя асобы, а Таварыства ўзнікла дзеля выратавання памяці пра ўсё гэта. Л. Тарасэвіч прыгадвае Аляксандра і Рыгора Хадкевічаў, Кастуся Каліноўскага, Сцяпана Пятэльскага (літаратурным псеўданім М. Арол) і Аляксея Карпюка, кажучы, што ўсе яны з’яўляюцца часткай гарадоцкай спадчыны, якой належыцца памяць, бо ў супрацьным выпадку будучаму пакаленню гарадчан жыццё можа асацыявацца адно з „Дынастыяй” і Майклам Джэксанам. Вывады Л. Тарасэвіча знакаміта пераносяцца на любы іншы куток Беласточчыны.

У „Гарадоцкіх навінах” ёсць яшчэ адзін тэкст Л. Тарасэвіча — „Страх кацапа”. Гэта сакавіты роздум аўтара на тэму: *Чаму за ўсякую цану не хочам мы быць беларусамі ды каго, нібыта, у гэтым абвінавачваем.*

Ёсць у нумары невялікі рэпартаж пад загалоўкам „Спрэчка за ўчастак н-р 512” аўтарства Яна Дарашкевіча, а таксама рубрыкі: *Лісты, Цэны спажывецкіх прадуктаў, Гумар* ды крыжаванка.

З рубрыкі *Лісты* даведваемся пра конкурс на пасаду кіраўніка ЗАГСа ў Гарадку і тое, як войт экзаменаваў адну з кандыдатак. Ліст называецца „Po co ten cyrk, Panie Wójcie?”

„Гарадоцкія навіны” н-р 1 з’яўляюцца выдатнем ілюстраваным. Паказваюць яны, што маючы невялікія паліграфічныя магчымасці (усяго ксеракс і камп’ютэр) можна дасягнуць не абы-якой якасці. Выданне адзначаецца агульнай светласцю, чытэльнасцю, а яго кампазіцыя — прадуманая.

Сваю газету гарадчане могуць набываць ва Управе гміны, Доме культуры, кіёску, крамах, у пісьманосцаў і солтысаў.

**Аляксандр Максімюк**

## Дзіўныя месцы

Ёсць на зямлі нейкія дзіўныя месцы. Лёгка там заблудзіцца. Пра такое адно месца расказваюць, а ёсць яно ў хваіне каля сямяноўскага хутара.

Аднойчы мая мама там збірала грыбы. У пэўны момант заўважыла, што ўжо некалькі разоў ходзіць у адным і тым жа месцы. Рашыла ісці проста — будзе што Бог дасць. Выйшла на дарогу, убачыла будынкі, але не магла дадумацца, як сюды трапіла. Урэшце ўбачыла жыхара хутара, што ехаў на веласіпедзе. Расказала яму аб гэтай прыгодзе.

— Нічога тут дзіўнага, — сказаў той. — Тут многа людзей траціць арыентацыю. Блукаюць нават тыя, хто тут жыве. Нейкае таямнічае месца. Я сюды ніколі не іду па грыбы.

Адна жыхарка таго ж хутара расказвала такую гісторыю:

— Мой муж паехаў у горад, я ўправілася ў гаспадарцы і пайшла па грыбы. Набірала іх шмат, але не магла ніяк трапіць дадому. Урэшце села каля дарогі і рашыла чакаць, ці хто будзе ісці ці ехаць. Праз нейкі час ішоў з цягніка мой муж. Убачыў мяне і пытае: „Чаго тут сядзіш?!” Кажу яму, што не магу дайсці дадому. „Здурэла баба! Столькі гадоў сюдою ходзіць, і не ведае, як трапіць дахаты?!”

Мая мама назвала гэтае месца „бермудскім трохвугольнікам” і не хадзіла больш у той бок. Я рашыла таксама не рызыкаваць.

**Аўрора**

# Грамада

*У гэтым годзе міне сямідзесятая гадавіна ўзнікнення найбольшай беларускай партыі ў II Рэчы Паспалітай, якой гісторыя з'яўляецца сімвалам рамантызму ў беларускай палітыцы.*

24 чэрвеня 1925 г. у выніку падзелаў у сеймавым Беларускім клубе ўзнікла новая арганізацыя, якую яе стваральнікі — Браніслаў Тарашкевіч, Пётр Мятла, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Павел Валошын — назвалі Беларускай сялянска-рабочай грамадой. Тарашкевіч, які на пачатку дваццатых гадоў прадстаўляў паланафільскую плынь у беларускім руху, пасля паругадовай працы ў Сейме і змагання за аўтаномію рашуча памяняў свае меркаванні наконт магчымасці паразумення з палякамі. На пачатку 1925 г. адкрыта пісаў і гаварыў, што „змаганне за аўтаномію і надзея на атрыманне яе ад польскага ўраду была палітыкай паражэння. Але мы ўжо вылечаныя з такіх прывідаў". Дакладна невядома калі лідэры Грамады сталі членамі КПЗБ. Няма аднак у іх палітычным выбары нічога дзіўнага. У дваццатых гадах на тэрыторыі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі вельмі рашуча праводзілася беларусізацыя ўсіх дзяржаўных устаноў. Школы, тэатры, прэса, партыя, адміністрацыя загаварылі на беларускай мове. Беларусы станавіліся гаспадарамі на сваёй зямлі. Для беларускіх патрыётаў — грамадзян Польшчы, якімі несумненна былі Тарашкевіч, Мятла, Рак-Міхайлоўскі, Валошын і іншыя, тадышняя БССР рабілася надта прывабнай. Зрэшты не толькі ў іх складалася такое ўражанне. У Савецкую Беларусь вярталіся тады таксама палітычныя эмігранты з Літвы, Нямеччыны, Чэхаславакіі. Ніхто не мог прадбачыць, што закончыцца ўсё гэта генацыдам беларускай інтэлігенцыі.

Сфармуляваная ў другой палове 1925 г. праграма Грамады заяўляла патрэбу перабудовы міждзяржаўных і міжнацыянальных адносін паводле прынцыпаў самаакрэслення народаў, а гэтым самым неабходнасць аб'яднання ўсяе беларускае зямлі ў адной дзяржаве. Хаця адкрыта не пісалася тады, што гэтай дзяржавай магла б быць БССР, але акрэслены ў праграме характар унутранага парадку не нашмат розніўся ад таго, што рэалізавалася на ўсход ад рыжскай мяжы. Грамада дамагалася падзелу памешчыцкай зямлі, спынення асадніцтва, роўных правоў для ўсіх грамадзян Польшчы, у тым ліку і беларусаў, васьмігадзіннага дня працы, сацыяльнага забеспячэння найбяднейшых, усеагульнай сістэмы навучання.

Да часу майскага перавароту Пілсудскага ў 1926 г. Грамада была невялікай партыяй. І толькі пасля перавароту пачала маланкава развівацца. У чэрвені 1926 г. (пасля года існавання) налічвала 569 членаў, у лістападзе — 62 тыс., а пры канцы снежня — звыш 100 тысяч. Узрастаючая колькасць членаў партыі і ўзніканне новых гуртκоў было магчымае дзякуючы дэзарганізацыі правінцыяльнага апарату ўлады. Ваяводскія ці павятовыя ўраднікі не ведалі, якая будзе нацыянальная палітыка новых улад. Некаторыя Пілсудскага атаясамлівалі з сацыялізмам і федэралізмам, а грамадоўскі рух лічылі паслядоўнасцю перавароту і зменай эліты ўлады. Некалькі месяцаў беларускі рух аставаўся без кантролю з боку дзяржаўнай адміністрацыі і паліцыі. Неўзабаве аднак стала ўсім зацікаўленым вядома, што грамадоўскі рух зусім пярэчыць палітыцы санацыйнай улады. Папулярнасць Грамады і маланкавае равіццё структур выклікала паніку сярод адміністрацыі, памешчыкаў, польскіх палітыкаў. У канцы 1926 г. з'езд беластоцкай арганізацыі быў нават атакаваны баявымі дружынамі Польскай сацыялістычнай партыі. Баявікі з ППСу ішлі ў атаку на беларускіх сацыялістаў з кіямі і крыкам: „precz z Polski". Паліцыя правакавала вулічныя бітвы і сама арганізавала баявыя групы, выкарыстоўваючы да гэтага мясцовых люмпенаў. Усё ішло, каб спіхнуць Грамаду на шлях нелегальнай дзейнасці і тым самым мець падставы для ліквідацыі партыі.

Адказваючы на закіды з боку польскіх паслоў, Браніслаў Тарашкевіч гаварыў у Сейме: „Prawdą jest, że za Hromadą idą całe kresy wschodnie, idzie także lud pracujący polskiej narodowości, we wszystkich kierunkach ujawniła się nadzwyczajna aktywność ludu białoruskiego. Straszy się społeczeństwo przygotowywaniem powstania, lecz w rzeczywistości straszą Panów nasze legalne metody działania. Zarzuca się Hromadzie bolszewizm. Tak, Hromada jest o tyle bolszewizująca, o ile bolszewizujące są najszersze masy ludności, i o tyle nie jest, o ile te masy nie są". Паводле Тарашкевіча на Беларусі, дзе ў кароткім часе некалькі разоў змянялася ўлада — царская, нямецкая, бальшавіцкая, польская, шмат было абяцанняў з усіх бакоў. Але ўсе рэжымы паводзілі сябе аднолькава — як акупанты. Пра апошні перыяд Тарашкевіч гаварыў у Сейме: „... zbrodnie pospolite popełnione przez reprezentantów władzy i wyroki uniewinniające przestępców rodziły bezsilne frustracje i poszukiwania kogoś, kto by publicznie bronił praw ludu białoruskiego. Te szanse dawała Hromada".

Няма сумнення, што кіраўніцтва Грамады супрацоўнічала з камуністамі, якія прадстаўлялі інтарэсы суседняй дзяржавы, але для ста тысяч членаў партыі прысутнасць у яе радах была перш за ўсё формай пратэсту супраць несправядлівасці, галечы і дыскрымінацыі.

Рашэнне ліквідаваць Грамаду ў студзені 1927 г. было вынікам намагання прадстаўляючага інтарэсы памешчыкаў Аляксандра Мейштовіча, які тады выконваў абавязкі міністра юстыцыі. Ноччу з 14 на 15 студзеня былі арыштаваны лідэры партыі, адначасова паслы Сейма II Рэчы Паспалітай. Парушанае пры тым было дзяржаўнае заканадаўства, якое забараняла пазбаўляць свабоды паслоў без згоды Сейма. Парламент адобрыў аднак дзейнасць урада пасля арыштавання паслоў ад Грамады. Супрацоўніцтва спікера Сейма Мацея Ратая з міністрам Мейштовічам і прэм'ер-міністрам Бартэлем у фальшаванні дакументаў стварыла нядобры прэцэдэнт на будучыню. Пару гадоў пасля санацыйная паліцыя без ніякіх абмежаванняў арыштоўвала польскіх паслоў з апазіцыйных партый.

Кіраўніцтва Грамады і тысячы дзеячоў былі абвінавачаны ў здрадзе дзяржавы і засуджаны на шматгадовую пабыўку ў турмах. Не вырашала гэта аднак ніякіх праблем, а толькі пераконвала шмат каго, што адзіны сэнс мае нелегальная палітычная дзейнасць.

Радыкалізм грамадоўскага руху, які прадстаўляў нацыянальную меншасць, і прапагандаванне некаторых лозунгаў нелегальнай КПЗБ непазбежна вялі да канфрантацыі з апаратам польскай дзяржавы, бо былі супрэчныя з яе так унутранай, як і замежнай палітыкай. Грамада была не толькі палітычнай партыяй, але таксама грамадскім рухам, якога формы, метады і мэты дзейнасці можна параўнаць да працы польскіх „арганічнікаў" з канца XIX і пачатку XX стагоддзяў. Грамадоўцы стваралі бібліятэкі, дамы культуры, тэатральныя калектывы, арганізавалі сустрэчы з выдатнымі дзеячамі, выдавалі часопісы, адрасаваныя вясковаму чытачу, змагаліся за школы з роднай мовай. Але гэтая форма дзейнасці не пакінула вялікага следу ў памяці беларускага грамадства. Нягледзячы на тактыку і стратэгію лідэраў партыі, засталася легенда рамантычнага бунту супраць неакцэптаванай рэчаіснасці. Не было аднак ніякіх шанцаў даўжэйшага існавання такога руху ў тадышніх палітычных умовах. Таму ў цэласці дарога, якой ішла Грамада, нікуды не давяла б.

**Яўген Мірановіч**

# З дзённікаў С. Яновіча

**1991—11—27.**

(...) На Беларускім выбарчым камітэце (праіснуе да траўня). Падказваю пераўтварыць яго потым у... Беларускі камітэт, у т.зв. трэст мазгоў, з галоўнай задачаю аналізу папярэдніх выбараў і рыхтавання варыянтаў наступных.

У нашай палітычнай моладзі назіраю сялянскі комплекс інтэлігентаў у першым пакаленні: заміланавне мець рацыю, пакутлівае прыманне крытыкі, на ўсё глядзець цераз асабістыя інтарэс... Няма карысці — няма актывіста.

Адпісаў на пісьмы — Давідзюку, Максу (у ЗША ён), Бічэль, Куптэлю.

**1991—11—28.**

Выйшла кніжка-мемуар Валкавыцкага *Віры*. Пачытаю з нядзелі... Першая такая ў нас. Несумненна важнае сведчанне мінулага тут часу. (...)

**1991—12—22.**

Забаўна ўявіць сабе, што пачнецца вычаўпацца цяпер у заруселай Рэспубліцы Беларусь, прымушанай суседзямі да незалежнасці!

Украіна забіла самы доўгі цвік у труну Крамлю. (...)

**1991—12—25.**

Развітальнае выступленне Гарбачова па тэлебачанню. Пастарэў ён моцна, гэты мой амаль што равеснік.

У *Ніве* — аж дзве лаянкі на БДА і на мяне за адзін раз (Яўг. Чыквіну шрайбуе тэксты Сахар Мядовіч). А Барскі: піша не думаючы, абы-як, прымітыўнай фразаю, не працуючы над слоўнікам. Счастливчик судьбы.

Парадаксальна ўзрадавалі мяне гэтыя іхныя наскокі. Ухапіўся я за іх, рыхтуючы рэпліку (...). Каб яны ведалі, што не ўчыняць мне прыкрасці, то, можа быць, і не рыпалі б... Яны ж абодва, плюючы на БДА, мацуюць яго!

**1992—01—11.**

Дзесяць дзён у захварэўшай Маці. У тамашняй цішыні і дапісаў *Супраслеўскі трыпціх*. У гэтым сваім паўпаганскім мястэчку з пазвоньваючым касцёлам ды ўцішэлаю царквою ў старадрэўі. Паслухваючы мінскай радыёстанцыі — як Беларусь беларусее.

*Polityka* надрукавала (без скарачэнняў) мой ліст наконт анахранічнага ў польскай навуцы падыходу да генезісу Вялікага княства Літоўскага (падказваю палякам *Старажытную Беларусь* Ермаловіча; таксама — *Па слядах аднаго міфа*).

(...) У выпадку мемуараў Валкавыцкага *Віры* — публікую крыху фактаў, якія здаліся яму няважнымі (*Віры і вірыкі*). Напісаў ён іх, аднак, даволі тэндэнцыйна ў сваю карысць, на што, зрэшты, меў права, нават маральнае. Не мазахіст жа з яго: усё нехта вінаваты, а то і зусім!

На другі дзень Каляд заехаў да мяне ў Крынках — Лёнік (прасядзелі да паловы трэцяй ночы). У гэты раз вярнуўся ён з Іерусаліма; мае выставы ў Ізраілі. (...)

**1992—01—12.**

Сёння была ў мяне самая вялікая ў Беластоку аўдыторыя. Выступаў у перапоўненай зале філармоніі, у час канцэрту царкоўных хораў (паміж іх выхадамі на сцэну чытаў *Супраслеўскі трыпціх, Валошку, Сыну*). Публіка прыняла в. добра! — За кулісамі павіншаваў уладыка Сава (ён упершыню чуў мяне). Нешта цяжкаНядобрае канчаецца разам з тым...

**1992—01—15.**

Юрка Баена даслаў свой першы зборнік *Лісты блакітных успамінаў*. Выдаў яго недзе ў Бельску, цалкам па-людску. Дапамог яму, фінансава, Аляксандр Лашук з Лондана; на падставе маёй рэкамендацыі. Добра сталася. (...)

**1992—01—17.**

Хлопцы нешта гавораць аб тым, што ўтвараецца арганізацыя нейкіх русінаў (згадваюць прозвішча якогасьці Матвеюка). З паўрускай ідэалогіяй. Здаровым розумам гэта цяжка зразумець. Анахронікі з'явіліся? Цені XIX стагоддзя? У нашым кутку, адарваным ад Беларусі, усё можа быць!

*(працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— Мікола Ермаловіч, беларускі гісторык, адкрыцці якога наконт пачаткаў Беларусі нельга было за савецкім часам публікаваць; вучоны жыў на паўжабрачым узроўні існавання;*

*— так сказаць, балканскі ўзровень нападак Яўгена Чыквіна на беларускі нацыянальны рух быў рэзультатам яго амбіцыяў захаваць сваё месца ў польскім парламенце.*

# 25 сакавіка ў лукашэнкаўскім тэлебачанні

Дзень Незалежнасці Беларусі быў у гэтым годзе адзначаны таксама ў „беларускім тэлебачанні". Вядучая інфармацыйную праграму „Навіны" Хрушчова сказала тэлегледачам, што ў 1918 г. нейкія людзі прыдумалі аб'явіць незалежнасць Беларусі, а 77 гадоў пасля тае падзеі ёсць яшчэ такія, што пра гэта памятаюць. І тут паказалі паўхвілінны фільмавы матэрыял з дэманстрацыі ў Менску. Стаяў каля опернага тэатра натоўп з бел-чырвона-белымі сцягамі. Камера заўважыла твар лідэра Беларускага народнага фронту Зянона Пазьняка, а пасля пускалі вобраз людзей, якіх цяжка было падазраваць у тым, што ўмеюць распісацца.

Пасля „ўшанавання" нацыянальнага свята беларускае тэлебачанне правяло своеасаблівы апытальнік на вуліцы Менска. Журналіст пытаў жыхароў сталіцы, што яны думаюць пра герб і сцяг Беларусі. Адказы, як трэба было спадзявацца, былі амаль згодныя. Найбольш далікатныя гучалі: „а мне там усё роўна які герб і сцяг, абы толькі ўлада забяспечыла добрыя ўмовы для жыцця, а сцяг няхай робіць, які захоча". Большасць адказаў супадала з меркаваннямі прэзідэнта „незалежнай" Рэспублікі Беларусь. Дзяржаўнае тэлебачанне не спаткала ў сталіцы краіны чалавека, які ўшанаваў бы нацыянальныя сімвалы. Усе маглі пераканацца, што народ і прэзідэнт думаюць аднолькава, жывуць тымі самымі ідэямі і праблемамі.

Тэхніка хлусні ў лукашэнкаўскім тэлебачанні дасягнула узровень брэжнеўскай эпохі.

рэд.




*БАРЫС РУСКО*

### Кроны

Бязлістыя кроны
калышуць смутак дрэў
і птушак прамоклых маўчанне,
і ноч палахлівую перад світаннем.
Птушкі зляцелі з плечаў
канаючай ночы,
а кроны загаласілі
і галізною трапечуць,
бы звязанымі крыламі.
Птушкі губляюць пер'е —
значаць дарогу вяртання,
бо яно белае.
Кроны губляюць лісце —
уцякаюць у сон,
бо сон белы.

### За шыбай самахода

Дарога матаецца
ў клубок падарожжа.
Хрыбет далягляду —
узгоркі хвалістыя
і лінія дрэў,
як крыло птушкі.
Знікае пейзаж
у гусцеючым змроку,
як дзіўны міраж.
А поле расу п'е
з імглы грудзей белых.
За шыбай хвіліна
матаецца ў кнігу.

### Услухоўванне ў вочы

Тэлевізійныя антэны ўгінаюцца
пад ношай гаманы.
А крыж на святыні
здранцвеў ад холаду.
А дзень бяжыць з мокрай
ад слёз хустачкай.
А куфаль піва
пеніцца ў галаве.
І возера поўнае рыб.
І вада, і вакуум,
а ў ім — надзея.
І ніва калышацца
пад пахі сытасці.
А ў тэлевізары
паштоўка каляровая —
цэнтральны вакзал
існавання безнадзейнага.

### Від з акна

Не адыходжу з месца,
дзе акно не зачыняе павекаў.
Поле праўды пухне
ад новага зместу.
Паглынаю кожную часціну
хвалістай нівы ведаў,
і кожны жэст галінаў мовы,
і шэпт кароны перагорнутай слоў,
і кожны крок у прасторы,
што праз акно нясуць
на зялёным падносе вочы.
Збіраю кроплі пачуцця
ў паток плачу сумнага —
з-за сарванага дня
з календара жыцця.

### Пасаг

Далоням не кранаць
блакіту неба,
і кветак,
і кахання —
прывідны рух.
Каханне само ў сабе —
блакіт у блакіце.
А кветка толькі жэст кахання,
будзь яна нават усіх колераў
палітрай.
Неба блакіт заўжды
аднолькавы, бяздонны,
як студня,
у якой пачатак усяго.
Не ведаю, хто першы
ўзяў у пасаг блакіт —
неба,
кветкі,
каханне?

*БЭАТА КАПІЙ*

* * *

Патрэба Пігмаліёна
які б
душу маю падзёртую
у Галатэю змяніў

чырвонасцю агністых рук
хуткаб'ючым сэрцам
ружовацвітучымі губамі

перамяніў
у музыку пахучую

гукамі далечыні
і дасканаласцю нябёс

і узнёс на вышыню
тонкапразрыстай хмары

цалуючы мяне —
нябесны
дасканалы твор
нізкапаклонным бляскам
зор

як сваё дзіцё

* * *

Кнігі вякоў
старонкі гадоў
строфы гадзін

па-за намі

здавалася б

дарога ўжо толькі
да нябыту
да слёз
да немачы слоў

не ўсё аднак
час балючы ўзяў

нам пакінуў
нараджэнне новай эры

і нават сонца
зноў грэе
як духмяны сон

без памяці

* * *

дрыжачым пахам
будучыні
напаўняецца сон мой
як звон

ціха
коціцца над
празрыста-чорнай
гладдзю дум

і кроў падымае
да самога дна
зямнога
быцця

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

* * *

На аўтабане Франкфурт — Бон
душа мая дашчэнту беларуская
ў рыдване бээмвэ
ляціць насустрач выпадковаму
святлу
я не прывык спяшацць нікуды
ў маёй свабодзе ёсць усё-такі дэфект
прыроджаны і застарэлы
шукаю слова і рукі
агню знаёмага на незнаёмым
кругаглядзе
моўчкі злучае нас жывы асфальт
ў прыспешаную механічным колам
неабходнасць прамінання
а бокам Рэйн
перабіраецца ў вечнасць
і асцярожна вымывае
самародкі зор
з падараванай сабе стужкі неба
і калі бразне знічкай пад колы
табе і мне ўжо часу не хапае каб
падняць яе з бетоннай хвалі

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР НА 1995 ГОД

З тым, што прывітанне „З Новым годам! З новым шчасцем!" у кніжным бэгэкатоўскім календары трапляе да чытачоў вясною, усе ўжо звыкліся. Нейк усталяваўся такі выдавецкі цыкл, якога не змаглі парушыць нават грамадска-палітычныя пераўтварэнні ў нашай частцы свету. Змянілася толькі тое, што з мінулага года каляндар перастаў друкавацца ў Беластоку, а стаў у Менску. Паўплывала гэта на вонкавы яго выгляд — прыпадобніўся да шмат якіх яшчэ па-савецку шэрых выданняў. Складаная выдавецкая працэдура — аўтары і рэдактары тут, а друкарня дзесьці далёка там — спрыяе шматлікім памылкам: моўным, друкарскім і фактаграфічным. Хаця трэба сказаць, што ў гэтым плане, сёлетні „Беларускі каляндар", „выпушчаны па заказу Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы", як напісана ў выхадных даных, куды акуратнейшы за мінулагодні.

Кніжка, традыцыйна ўжо, пачынаецца з календарыума на бягучы год. Другі раздзел называецца „З жыцця і дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства". Складаюцца на яго ўспаміны Уладзіміра Юзвюка пра першыя гады Таварыства, летапіс дзейнасці за верасень 1993 — май 1994, складзены старшынёй Янкам Сычэўскім і заценкі Янкі Целушэцкага пра некаторыя мінулагодняя культурныя мерапрыемствы і нашыя самадзейныя калектывы.

Сёлета юбілей 70-годдзя адзначаюць заслужаныя для БГКТ дзеячы: Віктар Швед, Міхась Хмялеўскі і Уладзімір Юзвюк. Гэтым асобам прысвечаны ў календары адмысловыя нарысы.

Зінаіда Навіцкая і Аляксандр Іванюк апісваюць гісторыю бельскага і гайнаўскага беларускіх ліцэяў. У. Юзвюк піша пра Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, а Янка Целушэцкі пра Чаромхаўскую гміну і народнае мастацтва Беласточчыны. На літаратурным палетку прэзентуюцца вершы Алеся Барскага, Віктара Шведа і Аляксандра Айны ды мініяцюра ў прозе Янкі Целушэцкага.

Каляндар канчаецца раздзелам „Беларусіка", у якім Ніна Баршчэўская піша пра беларускую рэдакцыю Польскага радыё ў Варшаве і бярэ інтэрв'ю ў англійскага беларусіста Джэймса Дынглі, а У. Юзвюк у артыкуле „Дыялекты ці архаізмы" разважае пра мову Беласточчыны. У гэтым раздзеле змешчана таксама палеміка Янкі Жамойціна з кніжкай Юры Туронка „Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі". Я. Жамойцін артыкулам „Вацлаў Іваноўскі ў люстэрцы гісторыі" паказвае прыклад інтэлігентнай, ведзенай культурна, палемікі. Не аспрэчвае фактаў, паказвае толькі розную магчымасць іх інтэрпрэтацыі. Свае рацыі выкладае спакойна, узважана, з дапамогай аргументаў, а не нападкаў на свайго апанента. Быццам усё гэта павінна быць нормай, але, на жаль, у нашых дыскусіях усё яшчэ дамінуюць пачуцці, эмоцыі, часта асабістая крыўда, а не розум, спакой, абгрунтаваныя аргументы.

Асабіста цікавымі знаходжу — хаця па іншых прычынах — успаміны У. Юзвюка пра 50-ыя і 60-ыя гады, пра ўзнікненне Беларускага таварыства і дачыненні да яго аўтара. Нягледзячы на пэўную герметычнасць тэксту, дзе галоўную ролю іграюць закулісныя гульні, асабістыя падштурхоўванні між дзеячамі, то ўсё-такі, можна знайсці ў ім вобраз эпохі і склад думкі тадышніх актывістаў. Асабліва, калі пазнаёміцца раней з кніжкай Г. Валкавыцкага „Віры". І нейк знаёмымі здаюцца фразы, што выйшлі з-пад пяра Юзвюка: „сваркі на пленуме ГП БГКТ з-за малаістотных у дзейнасці арганізацыі заўваг" (пачатак 60-х); „дзеля справядлівасці заўважу, што У. Станкевіч належаў да людзей класава перакананых, бескампрамісных і ўпартых у дзеянні" (гэта як пахвала!); „інтрыганцкія паводзіны калег-журналістаў з „Нівы" (у адносінах да М. Хмялеўскага, зноў жа ў пачатку 60-х).

Не ўсё аднак засталося па-старому, штосьці і змянілася. Калі чытаем, што У. Юзвюк, стаўшы сакратаром ГП БГКТ, дастаў адразу кватэру, дык як жа не разумець крыўды старэйшых дзеячоў на сённяшні дзень. Або на — паводле выказвання таго ж Юзвюка, толькі з артыкула пра музей — „беларускія міні-арганізацыі", якія, безумоўна, у чымсьці там вінаваты, што цяперака кватэр ніхто не дае.

**Мікола Ваўранюк**

# У святле тэлекамер

У Польшчы надзвычай вялікае зацікаўленне чачэнскай вайною. Арганізуюцца дэманстрацыі супраць агрэсіі Расеі, узнікаюць камітэты салідарнасці з Чачнёй, за гэтую каўказскую краіну моляцца ў касцёлах, высылаюцца канвоі з дапамогай ахвярам вайны. Пра ўсё гэта багата пішуць газеты, гаворыць радыё, паказвае тэлебачанне.

9 сакавіка 1995 г. клуб „Памост" арганізаваў у Варшаве сустрэчу з удзельнікам аднаго такога канвою, Міхалам Куркевічам, журналістам Інфа-радыё. Канвой арганізаваў Фонд Д.О.М. (Dzieło Odbudowy Miłości). Машыны з лякарствамі і матэрыяламі для перавязкі ран (перш-наперш бінтамі) пакінулі Варшаву 16 лютага, каб разгрузіўшыся ў бальніцы сталіцы Інгушэціі, Назране, вярнуцца ў Варшаву 4 сакавіка. Спадар Куркевіч расказаў пра падарожжа цераз Украіну і Расею, пра сітуацыю ў Інгушэціі, дзе на 300 тысяч карэннага насельніцтва прыпадае цяпер каля 200 тысяч уцекачоў з суседняй Чачні. Адначасна аднёсся ён вельмі крытычна да славутага канвою Польскай гуманітарнай акцыі Яніны Ахойскай. У той якраз час польскія сродкі масавай інфармацыі стварылі вобраз, быццам толькі гэты канвой завёз дапамогу патрабуючым.

У сапраўднасці, найбольш дапамогі з Польшчы пайшло праз „Caritas" і трапіла яна ў добрыя рукі. Тое, што канвой Ахойскай без дазволу ўехаў на тэрыторыю Чачні, можа толькі пашкодзіць будучым акцыям дапамогі.

Дзве пазаўрадавыя арганізацыі, Фонд Д.О.М. і Таварыства — Лекары свету, запратэставалі супраць дэзінфармацыі, якую вядзе Польская гуманітарная акцыя. „У абліччы трагедыі жыхароў Чачні, — чытаем у пратэсце, — лічым, што ўсе арганізацыі, якія нясуць дапамогу ахвярам войнаў і стыхійных катастроф, павінны супрацоўнічаць, а не крытыкаваць адзін аднаго".

Чытаючы гэты пратэст і слухаючы выступленні Міхала Куркевіча ды старшыні Фонду Д.О.М. Здзіслава Бялецкага, цяжка было паўстрымацца ад канстатацыі факта, што вайна — для адных мора бяды, а для іншых — спосаб набыцця папулярнасці. Вайна, як кожнае іншае вялікае няшчасце, гэта вельмі „тэлевізійная" падзея. Тэлебачанне, ў сваю чаргу, стварае вобраз, у які вераць мільёны.

Калі глядзім такога тыпу рэляцыі, ніколі не пашкодзіць паставіць пытанне: хто гэта робіць і што ён хоча сказаць? Тычыцца гэта таксама найбольшых апошніх войнаў нашага кантынента — у Югаславіі і Чачні — і спраў вакол іх.

**М. В.**

# Зорка
## старонка для дзяцей



*Беларуская група з Гарадка з настаўніцай Галінай Паплаўскай.*

## У Гарадку

У Гарадку беларускую мову вывучаюць нямногія. На дадатак навучанне яе абрывалася на пятым класе.

— Цяпер, калі не будзе рускай мовы, многія замест англійскай напэўна выбяруць беларускую, — гаварылі настаўніцы Галіна Паплаўская і Зінаіда Пашкоўская.

У школе 630 дзетак. На праваслаўную рэлігію ходзяць аж 450 школьнікаў. Толькі беларуская групка складае сорак сямёра дзяцей. Таму якраз гэтых энтузіястаў вырашыла наведаць „Зорка".

На жаль, не ўсе вучні маглі прыйсці на сустрэчу, бо беларускія класы складаюцца з многіх паралельных аддзелаў. Да таго ўрокі адбываюцца або раніцай, або пасля абеду. Усё ж такі некаторыя прыйшлі. Спатканне адбылося на перапынку ў чытальнай зале. „Зорцы" было вельмі цікава і прыемна сустрэцца і пагаварыць з гарадоцкімі вучнямі. Мае новыя сябры не толькі расказвалі пра сябе, але і абяцалі нешта напісаць або нарысаваць спецыяльна ў „Зорку". Хаця большасць дзетак на штодзень гаворыць па-польску, некаторыя хлопчыкі пачалі гаварыць на сваёй роднай, беларускай мове. А як прыгожа спяваюць гэтыя вучні. Не дзіва. Іхняя настаўніца Галіна Паплаўская спявае ў Гарадоцкім хоры. Апрача спеваў вучні забаўляюцца ў акцёраў. Зараз, хаця няма ёлкі, ладзяць вельмі цікавыя спектаклі (пра гэта чытайце ў чарговых нумарах „Зоркі").

Аднак дзецям найбольш падабалася летняе падарожжа над возера Нарач. У гэтым годзе таксама ўсе хацелі б паехаць. На жаль, было толькі 20 месц. Таксама ўсе з нецярплівасцю чакаюць сустрэчы з Лёнікам Тарасэвічам, іх славутым земляком. Але пра гэта, мабыць, напішуць самі вучні.

**Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**

<u>З гісторыі Беларусі</u>

## РАГВАЛОД

У другой палове X стагоддзя ў сталіцы крывічоў — Полацку, княжыў слаўны князь **РАГВАЛОД**.

„Рагвалод прыйшоў з-за мора", — гавораць старажытныя хронікі. Але ёсць і іншыя погляды. Пра крывіцкае паходжанне князя сведчыць яго чыстаславянскае імя Рагвалод, што абазначае таго, які валодае рогам. І трэба тут вам ведаць, што Полацкае княства на поўначы прасціналася да мора абшарам якраз напамінаючым рог. Таму можна лічыць гэтага князя патомкам мясцовых полацкіх князёў, а не прышэльцаў са Скандынавіі.

Слаўны і багаты быў тады Полацк. Вёў гандаль з шмат якімі краінамі і гарадамі. Прыязджалі купцы і госці са Смаленска, з Ноўгарада, з Кіева, прыязджалі немцы, грэкі, варагі. Куплялі і вывозілі яны звярыныя скуры, футры і рагі, мёд, воск, смалу і топленае сала. А прывозілі дарагія тканіны, зброю, аздобы. Ад гэтага багацеў горад і па цэлым свеце разносілася аб ім слава і аб магутным князю Рагвалодзе. Ён княжыў не толькі над Полацкам, але і над іншымі беларускімі гарадамі, якія яму плацілі даніну на ўтрыманне дружыны. За Смаленскае і Тураўскае княствы вёў князь Рагвалод змаганне з кіеўскім князем Уладзімірам. Але Уладзімір быў добрым дыпламатам. Папрасіў ён рукі дачкі Рагвалода — прыгожай і гордай Рагнеды. Апрача Уладзіміра сватаўся ягоны брат Яраполк.

*(працяг у наступным нумары)*

**(З-ка)**

## Вяснянка

*(з народных абрадаў)*

Свята песняй сустракаем,
Вясну весела мы гукаем.
Жаваранчкі прыляціце,
Цёпла лецейка прынясіце.
Ходзім радасна карагодам,
Выглянь сонейка на пагоду!
Шчасце, долечку мы гукаем,
Мы зямлю сваю адмыкаем.
Жаваранчкі, прыляціце,
Зямлю-матухну абудзіце.
Жыта-жыценька хай рунуе,
Кветкі-красачкі хай квітнеюць.
Свята шчырае мы сустрэлі.
Птушкі з выраю прыляцелі.

## Скорагаворкі

Чорны-чорны грак прысніў:
Ноччу драч драча дражніў.

*

Спрытна кроп палоў Пракоп:
Лёг пад плотам і захроп.

## ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА

### КАЛЫХАНКА

Доўгі дзень,
Цёплы дзень
Адплывае за аблокі.
Сіні дзень,
Сонны дзень
Адпаўзае ў кут далёкі.
Збеглі зайкі ўсе ў лясы,
Змоўклі птушак галасы
І буслы ў гнязды схавалі
Свае доўгія насы.
Баю бай, баю бай, } 2 разы
Вачаняткі закрывай.

Па крысе
Па расе
Патухаюць зоркі-сплюшкі.
Гулі ўсе,
Казкі ўсе
Пахавалісь пад падушкі.
Спяць і мышкі, і стрыжы,
Спяць машыны ў гаражы.
Ты таксама каля мамы
Ціха-ціхенька засні.
Баю бай, баю бай
Вачаняты закрывай.
Баю бай, баю бай
Разам з намі засынай.

## Як воўк сабаку выратаваў

*(народная казка)*

Жыў сабака.

Жыў, мучыўся, марнеў, аж вырашыў пакончыць з сабою. Пайшоў да ваўка і просіць:

— З'еш мяне!

— Што ж, — кажа воўк, — цябе есці? Худы, шкура ды косці адны.

— То што я вінаваты, гаспадар мяне выгнаў, няма ўжо нават мне дзе папраўляцца.

— Ідзі дадому, — кажа воўк, — і сядзі пад хатай. Я прыйду да вас і буду парсюка цягнуць. А ты кінешся на мяне, наробіш лямантy. І ўсё будзе інакш, пабачыш браце!

Так і было.

Сабака вярнуўся, сеў ля хаты і чакае. Воўк прыбег і давай парсюка цягнуць. Сабака нарабіў такога ляманту, што не толькі гаспадар выскачыў, але і ўся вёска збеглася. І ад той пары сабака голаду не ведаў. Ад добрай яды растаўсцеў, гладкі стаў. Пра ваўка ўжо забыўся.

Але воўк усё памятаў. Прыбег і кажа:

— О, цяпер цябе з'ем з прыемнасцю.

— Не еш, браток, мяне, — пачаў лашчыцца сабака. — Лепш паслухай, якую табе прапанову маю: у майго гаспадара заўтра парсюка заколюць, гасціна будзе. А я цябе, як свайго збаўцу, на гэтую гасціну ўвяду. А там, вядома, паясі смачней за ўсё на свеце.

Ваўку аж вочы заблішчэлі ад такой прапановы. На другі дзень сабака паклікаў ваўка. А людзей поўная хата. Ваўка пад стол сабака накіраваў. А там не толькі косці, мяса але і гарэлка ручаямі са сталоў сцякае. Налізаўся, ой налізаўся наш ваўчыска, ужо з сабакам як добры сябра задушэўна балбоча.

— Толькі ты не спявай, злітуйся, — папярэджваў сабака.

— Не! Спяваць мне хочацца.

І воўк давай з-пад стала спяваць па-воўчы. Людзі пачуўшы выццё, як не закрычаць:

— Воўк, воўк!

І забілі гэтага ваўка. А сабака жыў сабе спакойна і сыта.

**(З-ка)**

# Так і назвалі „Зоркай"

**Інтэрв'ю з ЯНІНАЙ ЧАРНЯКЕВІЧ, шматгадовым рэдактарам „Зоркі".**

**Ганна Кандрацюк:** — *Многія настаўнікі ў школах, якія я наведваю, заўсёды пытаюцца: „А што там чуваць у пані Яніны Чарнякевіч?!"*

**Яніна Чарнякевіч:** — Цяпер, фактычна, раблю тое ж самае, што і раней рабіла. Толькі ўжо не пішу ў газету, а гавару ў мікрафон. І свае 15 хвілін у радыёперадачы „Пад знакам Пагоні" трактую як працяг „Зоркі". Памятаю таксама пра бацькоў, бо гэта ж яны ўключаюць радыёпрыёмнікі. Таму і для іх ёсць кавалачак перадачы.

— *Ці праца на радыё даецца Вам лёгка?*

— Найбольш праблем было з маім характарам. Я вельмі нясмелая. І калі перада мною паставілі мікрафон, я спярша думала, як мне гаварыць, а не што гаварыць. Пакуль не зжылася з мікрафонам, было сапраўды цяжка. Першую палову года я проста мучылася, у мяне не было дыху, затыкалася горла. А ў радыё вельмі важная справа — як гаворыш. І мне вельмі залежыць, каб пры нагодзе перадачы слухачы пазнавалі літаратурную мову.

— *Дарэчы, у Вас якраз вельмі прыгожая, чыстая мова?*

— Я нарадзілася паміж Меншчынай і Случчынай у цэнтральнай Беларусі. Я з дзяцінства аслухана з такой мовай, у якой было аканне і дзеканне. У нас часам кажуць, што калі няма дзекання і акання — гэта ўжо не беларуская мова. Няпраўда! Беларуская мова ў многіх рэгіёнах не мае ні акання, ні дзекання. Сам Скарына, якога лічым прабацькам асветніцтва, не меў у сваёй мове ні дзекання, ні акання. Цэлае Палессе не мае гэтых асаблівасцей, а гэта ж беларуская мова. Вучылася я таксама ў Беларусі. Дарэчы, у дзесяцігодцы ў мяне была вельмі добрая настаўніца беларускай мовы. Ну і вядома, 30 гадоў працы ў „Ніве". Там ўвесь час праходзіла шліфаванне роднай мовы.

—*Як Вы сталі рэдактарам „Зоркі"?*

— Гэта была зусім выпадковая справа. Я пачынала працу ў „Ніве" як карэктар, пазней рабіла ад'юстацыю. „Зорку" рэдагавалі многія — Вера Валкавыцкая, Сакрат Яновіч, Зося Бусловіч, Валодзя Паўлючук. Аднойчы на сходзе (на якім я не прысутнічала) даручылі мне рабіць гэтую старонку. Як я пачала, то рабіла „Зорку" 30 гадоў.

— *Ці на працягу 30 гадоў працы Вам запаматаліся нейкія асаблівыя здарэнні?*

— Былі, а як жа! Асабліва тады, калі ездзіла ў „тэрэн". Калісь, як толькі пачынала, запрасілі мяне на настаўніцкую канферэнцыю ў Скупава, што каля Нараўкі. Даехаць, праўда, даехала, але вярнуцца ў той самы дзень не было як. Пасля канферэнцыі настаўнікі наладзілі добрую вячэру, было пра што пагаварыць. Урэшце завялі мяне нанач да нейкай бабулькі. Аўтобус ехаў у чатыры гадзіны раніцы. А гэта было якраз у Піліпаўку. Бабка, праўда, збудзіла, вывела на ганак і папхнула мяне, гаворачы: „Ідзі ў гэты бок, там шаша будзе". Па снезе, вобмацкам ды наўздагад, якімісь гародамі, шторaз западаючыся па калені, дабілася я да дарогі. А ведаеце, Скупава гэта лясная вёска. Кожны напаткaны куст мне нейкім ваўком здаваўся. Тады, зразумела, поўна ваўкоў было.

Але, ужо на дарозе бачу святло, аўтобус едзе. То я бягом яму насустрач. І яшчэ не паспела на прыпынак. Давай крычаць, каб не ад'язджаў. На шчасце шафёр затармазіў. Я відаць дзіўна выглядала, галава ад пары і дыху



пабялела інеем, вочы са страху вялікімі сталі. „Nu, lalka, co ty taka przestraszona", — загаварыў кандуктар, і, пабачыўшы, што я празябла, пасадзіў на самае цёплае сядзенне. Так я шчаслівa даехала ў Беласток.

Такія падарожжы, хаця і небяспечныя, спрыялі наладжванню вельмі цёплых і сардэчных кантактаў. Пазней, калі ўжо ездзіла ў вёскі на машынах, было інакш.

— *Калі я была яшчэ вучаніцай у пачатковай школе, усе мае сябры, дзякуючы „Зорцы", наладзілі вельмі цікавую карэспандэнцыю з дзяцьмі з СССР. Ці гэта Вы прыдумалі куточак „Пазнаёмімся"?*

— Гэты куточак стаў вынікам лістаў чытачоў. Чым больш адрасоў мы друкавалі, тым больш нам іх дасылалі. І гэтая рубрыка так у мяне „раскруцілася", што я мела, папраўдзе, яе досыць. Было так, што ў чарзе да публікацыі вучні чакалі паўгода. Цяпер магу прызнацца, сваіх, з Беласточчыны, выпіхала наперад.

— *А ці ў „Зорцы" была цэнзура?*

— Пэўна, што была. Аднойчы на першай старонцы я надрукавала здымак, на якім два вучні ішлі па рэйках. Я падпісала, што гэтыя вучні з вёскі Бялкі. А тады ў прэсе забаранялася называць мясцовасці, калі яны знаходзіліся побач чыгункі. Зразумела, што на любой карце яны нармальна былі пазначаны. А ўжо, не дай Бог, было назваць нейкага вайскоўца па імені і прозвішчы. Калісь у Гайнаўцы пры нагодзе ёлкі, дзе выступаў капітан, я зрабіла матэрыял. З тым тэкстам былі клопаты.

— *У „Зорку" заўсёды пісалі многія вучні. Ці выраслі з іх агульнавядомыя людзі?*

— Янка Целушэцкі вучыўся журналістыкі на „Зорцы". Калі дарос, яго пераняла „Ніва". Час ад часу пісалі сёння вядомыя паэты, напрыклад, Міра Лукша і Юрка Баена.

— *Ці сённяшнія дзеці вельмі адрозніваюцца ад тых з 60-х гадоў, калі Вы пачыналі працу?*

— Дзеці былі іншыя ў тым сэнсе, што ўсе гаварылі па-беларуску. А цяпер, як гэта сказала Надзея Дудзік з Гарадка „у нас з сабакамі і дзяцьмі гавораць па-польску".

— *Як Вы ацэньваеце сённяшнюю „Зорку"?*

— У часы, калі я была рэдактарам „Зоркі", мне часта не хапала матэрыялу з „тэрэну". Зараз таксама ён вельмі патрэбны. Але адзін чалавек, зразумела, не ў змозе назбіраць такі матэрыял на цэлы нумар. Мне здаецца, што „Зорка" многа не змянілася. Цешыць, што паявіліся матэрыялы пра нашую нацыянальную свядомасць. Людзі павінны разумець сваю прыналежнасць да нашай беларускай супольнасці. Бо свядомасць у нас на вельмі нізкім узроўні. Не дзіва, доўгія гады мы нічога не ведалі пра сваю гісторыю. Таму лічу, што вельмі добра, калі паяўляюцца матэрыялы пра сцяг, гістарычныя назвы, сапраўдных герояў. Важнасць такіх матэрыялаў заключаецца і ў тым, што многія настаўнікі не маюць гістарычных крыніц і „Зорка" для іх з'яўляецца дапаможнікам.

— *Спадарыня Яніна, ці гэта праца з дзяцьмі паўплывала на тое, што Вы заўсёды, супраць усім складанасцям часу, вельмі сардэчны чалавек?*

— Магчыма, шматгадовая праца ў дзіцячай газеце, у кантакце з дзяцьмі нейк фармавала характар. Сябры смяяліся, што я здзецянела на „Зорцы". Але я прымала гэтыя жарты як камплімент.

— *Дарэчы, Вас па школах усе называлі „Зоркай".*

— Пятнаццаць гадоў я так падпісвала свае артыкулы ў „Зорцы". Так і назвалі „Зоркай". Нават, нядаўна прыйшоў да мяне інкасатар. Сам родам з Кленік. Увайшоў, глянуў, ды пытаецца неяк нясмела: „Ці Вы часам не будзеце гэтай „Зоркай" з „Нівы"?

**Гутарыла Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**

## Івонка Красоўская

вучыца ў пятым класе. У гэтым годзе ўдзельнічала яна ў дэкламатарскім конкурсе беларускай мовы. Дзяўчынка дайшла аж да раённага агляду.



— Найбольш мне падабалася тое, што там я пазнаёмілася з новымі, цікавымі сябрамі, — успамінала Івонка.

Мусіце ведаць, што ў такіх конкурсах удзельнічаюць у першую чаргу паклоннікі паэзіі і літаратуры. А Івонка паэзію кахае.

Сама яна родам з Кнаразоў. У сваю школу, што ў Храбалах, даязджае разам з сябрамі на школьным аўтобусе.

Мая новая сяброўка расказала „Зорцы" пра сябе. Аказваецца, што дзяўчынка наймалодшая ў сям'і. У яе чатыры старэйшыя браты. І ведаеце, Івонка ўжо даўно цёця! У яе шасцігадовы пляменнік. Івонка вельмі яго кахае. І напэўна будзе вучыць яго беларускіх вершаў.

Звярніце таксама ўвагу, што Івонка знята на фоне гістарычнай насценгазеткі. Выканалі яе вучні са сваёй настаўніцай гісторыі Ірэнай Матус.

**З-ка**

## Конкурс

Ці ведаеце, дзеці, птушак, якія жывуць у Беларусі? Калі ведаеце, дык адгадайце загадкі, а адказы прышліце ў „Зорку". Тут мы разыграем вельмі цікавыя ўзнагароды.

1) Доктар дзюбкай стукае,
Трубкаю не слухае:
Тук-тук-тук ды тук-тук-тук.
Пэўна, чулі ў лесе стук?
Ледзь паспее адпачыць —
І давай ізноў лячыць.

2) У церамку жыве,
Прыгожы голас мае.
Спяваць вялікі ён мастак
Ну а завецца птушка

3) Доўгая шыя,
Чырвоныя боты,
Белы ды шэры
Ідзе ля дарогі.

4) Круглыя як мячыкі,
Быццам адуванчыкі
На дварэ ля хаты
Ходзяць ...............

**Увага!** У конкурсе могуць прыняць удзел не толькі паасобныя дзеці, але і цэлыя класы. Калі адказы дашле ўвесь клас, „Зорка" падумае пра такую ўзнагароду, якая цешыла б усе дзеткі. Ага, у жараб'ёўцы ўзнагарод прымуць удзел усе тыя, што правільна адкажуць хоць на дзве загадкі. Конкурс будзем працягваць і ў наступным нумары.

**(З-ка)**

# Сустрэча з Юбілярам



*Ад "белавежцаў" віншавалі паэта старшыня Літаб'яднання Ян Чыквін і Сакрат Яновіч.*

23 сакавіка г.г. у Ваяводскім асяродку анімацыі культуры (ВААК) адбылася аўтарская сустрэча з Віктарам Шведам з выпадку ягонага сямідзесяцігоддзя. Арганізатарамі вечарыны выступілі Праўленне аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў, Праўленне Літаб'яднання „Белавежа" і ВААК. На сустрэчу прыйшлі не толькі афіцыйныя асобы ад арганізатараў, але і шмат прыяцеляў і прыхільнікаў таленту паэта. Увагу прысутных напэўна прыцягнуў факт, што на зале было многа ўдзельнікаў беларускага грамадска-культурнага руху ў Польшчы — ад яго пачынальнікаў з паловы пяцідзесятых гадоў да вучняў сярэдніх школ. Урачыстую сустрэчу ўдастоілі таксама прадстаўнікі навукі і мастацтва з Менска і Гародні.

У гэты вечар побач віншаванняў вяліся таксама размовы пра творчасць паэта. Беластачанам цікава было паслухаць даклад прафесара Аляксея Пяткевіча з Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, у якім указаў ён на наватарства і незвычайныя прыёмы ў традыцыйнай, здавалася б нам, сістэме спосабаў і сродкаў вобразнага адлюстравання свету паэтам. Размовы аб паэце і ягонай паэзіі ўпрыгожвалі вершы ў выкананні мастакоў сцэны і мікрафона. Прысутныя мелі магчымасць паслухаць, як чытаюць вершы Ліля Давідовіч і Юры Авяр'янаў з Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы з Менска ці Зінаіда Арцюховіч з Гродна. Польскія пераклады вершаў паэта зачытала Бажэна Бэднарэк з беластоцкага Польскага радыё.

Неад'емнай часткай юбілейнай сустрэчы з'яўляюцца віншаванні. А віншавалі Юбіляра многія — і прадстаўнікі ўлад, і творчых арганізацый, і сябры, і знаёмыя. Тэлеграму з прывітаннямі даслаў таксама Надзвычайны і Паўнамочны Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Георгій Таразевіч. У моры кветак і сувеніраў знайшліся таксама больш арыгінальныя формы ўшанавання Юбіляра. Ад рэдакцыі „Нівы" паэт атрымаў дасціпныя рыфмаваныя пажаданні, а дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук прынёс Юбіляру ў падарунку... песню. Асаблівасць яе заключалася ў тым, што Сяргей Лукашук склаў музыку на словы верша „Мае вершы", які быў надрукаваны на запрашальным білеце. Даслоўна на працягу некалькіх дзён паспеў ён напісаць музыку, развучыць песню з калектывам „Дзявочыя ноткі" з Бельскага беларускага ліцэя і запісаць яе на плёнку. І вось у юбілейны вечар прысутныя мелі магчымасць паслухаць „Мае вершы". На гэтай жа касеце былі і іншыя песні на словы паэта ў выкананні дзіцячага калектыву „Журавінка" з Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

Адметнасцю сустрэчы з Юбілярам была сардэчная атмасфера і адсутнасць афіцыёзу. Публіка, якая прыйшла пакланіцца паэту, упэўніла Юбіляра ў тым, што ў сваім змаганні за беларускасць ён не самотны, што ў яго шмат прыхільнікаў ягонай творчасці, шмат сардэчных аднадумцаў, якія, таксама як і паэт, горача любяць народ і Айчыну.

**Віталь Луба**
**Фота Валянціны Швед**



*Вершы чытаюць Ліля Давідовіч і Юры Авяр'янаў.*



*Сяргей Лукашук дорыць касету з песнямі на словы паэта.*

# Беларускія спартсмены расслаўляюць сваю краіну

**Размова з ФЕЛІКСАМ КАРАСІКАМ — трэнерам зборнай Беларусі па гімнастыцы, аб сітуацыі беларускага спорту.**

**Янка Жамойцін:** — *Спартыўныя каментатары часта сцвярджаюць, што дасягненні Віталя Шчэрбы ці Івана Іванкова бываюць з'яўляюцца вынікам савецкага, а не беларускага спорту. Што вы на гэта?*

**Фелікс Карасік:** — Маючы на ўвазе існуючыя ў нас прынцыпы спартыўнага захавання, дазвольце, што я ўстрымаюся ад маёй асбістай і наогул нашай ацэнкі такіх каментарыяў. Аднак хачу звярнуць увагу, што па-першае: В. Шчэрба, І. Іванкоў, як і шмат іншых старэйшых і малодшых ад іх гімнастаў — гэта мае выхаванцы, а я ад пачатку сваёй спартыўнай кар'еры і дасюль з'яўляюся жыхарам беларускага Гродна ды дзейнічаю на ніве беларускага спорту.

Па-другое: чэмпіянат у Аўстраліі, на якім перамог Іванкоў, адбыўся тры гады пасля набыцця незалежнасці ў беларускім спорце, а абодва хлопцы нават не дасягнулі яшчэ свайго спартыўнага апагея магчымасцей ды 22 гадоў жыцця.

Па-трэцяе: хай паслужыць адказам таксама ўдзел нашай зборнай каманды з сямі гімнастаў у чэмпіянаце ў Дортмундзе ў лістападзе 1994 г. У яе саставе было толькі двух дасведчаных спартсменаў, усе астатнія пяць — гэта юніёры, якія ўпершыню выступалі ў імпрэзе міжнароднага рангу ды на 9 каманд занялі чацвёртае месца пасля Кітая, Расеі і Украіны. Варта заўважыць, што украінцам, дзе выступалі 4 майстры спорту і чэмпіёны, мы ўступілі толькі на 0,13 бала, а Украіна Расеі прайграла таксама зусім нязначна — нешта на 0,11 бала. Сведчыць гэта аб выраўнанні спартыўнага ўзроўню нашых маладых гімнастаў з перадавымі камандамі свету. За намі былі: Нямеччына, Японія, ЗША, Румынія і Балгарыя.

Нельга не заўважыць і таго факту, што ў спартыўных публікацыях паяўляецца штораз больш, а не менш, інфармацый пра передавыя дасягненні мае свае абумоўленасці. Гэта цяжка адбіваецца на моладзі, якую не мінае ціск (не толькі псіхічны) з боку іншых — багацейшых ад нас. Для прыкладу, у Расеі за перамогу ў алімпіядзе прадбачана 120 тысяч долараў, а ў Беларусі — 3—5 тысяч, не гаворачы ўжо пра параўнанне з Захадам. Прыватныя спонсары нейк таксама не дараслі яшчэ да зразумення праблемы. Іншая справа, што сам факт самастойнасці беларускага спорту прычыніў многа новых беларускіх спартсменаў у розных відах спорту. У алімпійскім дэбюце нашая біятланістка Святлана Парамыгіна і канькабежац Ігар Жалязоўскі ў Ліле-хамеры здабылі сярэбраныя ўзнагароды. У Нарвегіі наогул выступілі 33 спартсмены, з якіх 10 апынуліся ў ліку 16-ці наймацнейшых у свеце, а беларуская зборная, якая выступіла ў сямі спаборніцтвах, заняла пятнаццатае месца на 70 камандаў.

— *Скажыце, калі ласка, як растлумачыць факт росту поспехаў беларускага спорту ў пяры яд яго рэарганізацыі і эканамічных цяжкасцей у краіне? Што вы лічыце найбольшым недамаганнем?*

— Найбольш жалюгодным я лічу факт недаацэнкі ў нас значэння спорту, які расслаўляе імя Рэспублікі Беларусь, яшчэ мала вядомае ў свеце. Варункам гэтай славы з'яўляецца аднак неабходнасць здабывання шматзначных, але каштоўных дасягненняў. Недахоп зацікаўлення апраўдае безумоўна эканамічны крызіс, але спорт турботаў, як укамплектаванне спартыўнай базы, медычнага і навуковага забеспячэння і шмат чаго іншага. У такіх абставінах сапраўды цяжка зразумець прычыну поспехаў беларускіх спартсменаў. У народзе ходзіць анекдот пра тыповага беларуса, які быццам з'яўляецца гібрыдам вала і рыбы, што дае яму працавітасць і маўклівасць. Гэты неперабарлівы жарт не пазбаўлены часткова сэнсу і ў адносінах да спартсменаў. Яны ў сваёй большасці выхаваны ў сціплых умовах, не шматслоўнаць, а свае дасягненні здабываюць прывычнаю ім цяжкаю працай, вынік якой лічаць сваім гонарам.

— *Уладзімір Козыраў у „Фізкультурніку Беларусі" ад 14 студзеня 1995 г. апісвае вашую самаахвярнасць у справе выхавання, не толькі спартыўнага, моладзі. Дзякуючы спартыўнай харызме, найбольшая група вашых выхаванцаў, бо аж 5 асоб, асягнула ступень майстроў спорту міжнароднага класа. Не дарма перадавыя ў свеце гімнасты ЗША і Кітая цэняць вашую каманду як прыярытэтнага спарынгпартнёра, а ЗША ці Нямеччына старающца прыцягнуць да сябе вашых выхаванцаў, напрыклад В. Шчэрбу, або прапануюць ім стыпендыі, напрыклад, Дзянісу Грыну. Нельга прамаўчаць шматлікіх вашых спартсменаў у краіне і за яе межамі, якія навучаюць малодшых. Зразумела, што вынікі вашае працы апраўдалі даўно прысвоеную вам ступень заслужанага трэнера Беларусі, а арганізатары чэмпіянатаў свету па гімнастыцы даверяюць вам судзейства ў спаборніцтвах (Аўстралія, Нямеччына) ды перадавыя каманды ў свеце дабіваюцца вашага партнёрства. Скажыце, калі ласка, у чым заключаецца таямніца вашых поспехаў.*

— Па прафесіі я — філолаг і прыдаю вялікае значэнне ўмеламу слову. Пранікнуць да пераканання падапечнага словам, каб ён паверыў у магчымасць здзяйснення гэтага, што паказваецца немагчымым, словам і асабістым прыкладам памагчы выпрацаваць стойкасць, уменне перамагчы слабасці і навучыць маладога чалавека працавітасці — гэта ўжо палова поспеху. Важныя і псіхалагічныя здольнасці трэнера, яго чуццё граніцы вынослівасці выхаванца, магчымасці выпрацоўкі ў ім пачуцця гонару з дасягненняў як мэты самой у сабе, а не з матэрыяльных здабыткаў, што звязана з умелым адборам кадраў. У сённяшнім свеце меркантылізму гэта праблема, якую павінны зразумець не толькі трэнеры.

**Гутарку правёў**
**Янка Жамойцін**

# 5-я нядзеля Вялікага Посту

У 5-ю нядзелю Святой Пяцідзесятніцы Царква ўшаноўвае памяць св. Марыі Егіпецкай. На ейным прыкладзе яна паказвае магчымасць пераадолення любога граху і падзення. Прыклад ейнага жыцця — вельмі паказальны. У маладосці жыла яна разбэшчана, аднак цудоўным чынам пераджыла азарэнне, затым да самой смерці аплаквала свае правіны, дасягнуўшы ў аскетычным жыцці святасць.

З другога боку, у плане храналагічных, біблейных падзей экспануецца прадвесце Хрыстовых мукаў. Хрыстос унутрана рыхтаваўся да канчыны і падрыхтоўваў сваіх вучняў. Апосталы выявілі тады крайняе незразуменне Хрыстовай місіі. Яны спадзяваліся зямных карысцяў і славы, думалі — як большасць людзей усіх часоў — зямнымі катэгорыямі. Таму ў адказ на іх славалюбства Ісус сказаў ім: „Хто хоча быць першы між вамі, хай будзе вашым нявольнікам; хто хоча быць вышэй за іншых, хай будзе ім слугою” (Матф., 20:26). Разуменне ўлады як службы было чужое апосталам у той час і надта рэдкае сярод іх сучасных намеснікаў-епіскапаў. Натуры чалавека характэрная схільнасць да ўзвышэння сябе, эгаізм і імкненне да найвышэйшых пасадаў.

Вялікі Пост спрыяе ўсведамленню сапраўднага нашага прызвання. Ужо старазапаветны прарок Ісаія падкрэсліваў, што пост гэта „разарванне аковаў зла, вызваленне прыгнечаных... дзяленне свайго хлеба з галоднымі, прыняцце ў хату бяздомнага, неадварочванне ад суайчыннікаў” (Іс., 58: 6-7). Перанясенне націску на служэнне, а не на загледжанне выключна ўнутр сябе, відавочнае ва ўсім Святым Пісанні. Хрыстос вучыў, што мы павінны адной рукой трымацца духоўнага адраджэння, другой жа падаваць чашу халоднай вады бліжняму свайму: „Любоўю служыце адзін аднаму”, — чытаем у Святым Пісанні (Гал., 5:13). „Хай кожны рупіцца не толькі пра свае справы, але і пра іншых” (Філ., 2:4), „апранецеся ў шчырую міласэрнасць, дабрыню, пакору і цярплівасць” (Кал., 3:12). Біблія заклікае яшчэ: „Ахвяроўвайце на патрэбы бліжніх, будзьце гасціннымі, прымайце вандроўнікаў, не забывайцеся пра тых, што пакутуюць”. Чалавек з'яўляецца часткай грамадства. Хрысціяне не прызваны адлучыцца ад асяроддзя дзеля выключна асабістага збаўлення. Абмежавацца малітвай, постам, багаслужбамі і абрадамі, замкнуўшыся ў сабе — гэта толькі палова. Чалавек пазнаецца які ён сапраўды ў тым, што ён робіць, а не што гаворыць. Жонка Чан Кай-шы сказала некалі: „Рэлігія Канфуцыя вучыць абагаўляць продкаў, але не збудавала ніводнага прытулку для старцаў”. Хрысціянства наадварот — не дэкларатыўнае, але дзейнае. У старажытнасці любілі філасофстваваць, але не будавалі шпіталяў. Хрысціяне першыя заняліся сацыяльнымі праблемамі. У адрозненне ад цароў і князёў Царкве неабыякавы былі здароўе і асвета. На працягу вякоў Царква болей, чым якая небудзь іншая ўстанова, спрыяла падняццю ўзроўню жыцця. Дзякуючы ёй была забаронена праца дзяцей і ліквідавана нявольніцтва. Змянілася таксама сітуацыя жанчыны ў сям'і і ў грамадстве ды шмат іншых рэформаў уведзена, дзякуючы хрысціянству. Царква надалей паўтарае, што „вера без добрых учынкаў — мёртвая”.

Ёсць яшчэ іншая форма служэння: адказнасць за бліжніх і добры прыклад. Калі Бог спытаўся Каіна, што сталася з ягоным братам, той адказаў: „А ці ж я сторажам майму брату?” Не разумеў, што мы фактычна з'яўляемся ахоўнікамі сваіх братоў у веры, нясем адказнасць за іх. Мы маем таксама магчымасць паслужыць добрым або дрэнным прыкладам. Біблія перасцерагае перад спакушэннем іншых і дэмаралізацыяй. Заклікае даваць толькі добры прыклад, рабіць бліжніх болей высакароднымі. „Будзь прыкладам, — пісаў апостал Павел, — у гутарцы, у паводзінах, у любоўі, у веры, у чысціні” (Цім., 1: 4—13). Гэта не жаданне, але загад, не парада, але абавязак. Выканалі яго не толькі святыя (як Марыя Егіпецкая). Кожны на сваім месцы і ў сваім часе мае магчымасць зрабіць нешта карыснае і добрае. У людзей, што праўда, неаднолькавыя магчымасці і здольнасці. Галоўнае, каб кожны Божы дар: мова, таленавітасць, духоўнае ці матэрыяльнае багацце паслужылі іншым людзям.

У 5-ю нядзелю Вялікага Посту Царква працягвае свой заклік да духоўнага аднаўлення. Разумеючы людскую слабасць, заклікае пераадолець яе. Дзеля гэтага паказвае прыклады тых, хто такі шлях перайшоў. Мы не ведаем заўтрашняга дня. Як не горка, ён можа быць апошнім. Сярод штодзённых заняткаў і руплівасці пра другараднае, нас таксама тычацца словы накіраваныя да Марфы і Марыі: „Марфа, Марфа, ты турбуешся і клапоцішся пра многае. А адзінае толькі патрэбнае. Марыя ж выбрала добрую частку, якая не адымецца ад яе” (Лук., 10:42).

**а. Канстанцін Бандарук**

# Аб малітве „Ойча наш” (5)

## Адносіны да зямной дзяржавы

Калі наша айчына ў небе, дык ці можам быць надзейнымі грамадзянамі нейкай краіны, патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны? І ў гэтым пытанні для вернікаў аўтарытэтны прыклад самога Хрыста. Незадоўга да сваёй смерці Ён не толькі не хваляваўся за сябе, але плакаў над лёсам Ерусаліма, над будучай трагедыяй свайго народа. Не рымскага і не грэчаскага, толькі свайго яўрэйскага народа! Святое Пісанне ўвекавечыла таксама адно выказванне Хрыста, якое ўвайшло нават у гутарковы ўжытак, але тлумачыцца яно па-рознаму. У адказ на правакацыйнае пытанне з боку фарысеяў: „Ці належыць плаціць падатак кесару, ці не?” Ісус сказаў: „Аддавайце кесару кесарава, а Божае — Богу”. Апостал Павел таксама выказаў думку, з якой не ўсе пагаджаюцца і па-свойму тлумачаць: „Няма ўлады, каб не ад Бога”.

Здавалася б гэтыя ўказанні Святога Пісання дастаткова адназначныя і не павінны выклікаць разнагалоссяў. Хрысціяне разумеюць, што кесар — гэта зямная ўлада, інакш кажучы — дзяржава, у адносінах да якой яны маюць шэраг абавязкаў. Да іх належыць лаяльнасць, паслушэнства, абарона дзяржавы ад ворагаў. Пры гэтым хрысціянскі патрыятызм загадвае ім сумленна працаваць, належна выхоўваць дзяцей, быць дысцыплінаванымі, добрасумленнымі, паслужлівымі і бескарыслівымі. Любоў да сваёй дзяржавы выяўляецца ў памножванні яе павагі і пазіцыі ў свеце, заможнасці і законнасці. Пры гэтым дабро дзяржавы ў многім залежыць ад устойлівасці сям'і, ад нораваў і маралі. Неабыякавыя і адносіны да абортаў, разводаў, паразітызму ды іншых грамадскіх з'яў. Абапіраючыся на гуманістычныя вартасці, чалавек проста можа лепш паслужыць сваёй дзяржаве.

Вось тут мы даходзім да належнай інтэрпрэтацыі хрысціянскіх адносін да дзяржавы. Паўлавы словы: „Няма ўлады, каб не ад Бога” першыя хрысціяне зразумелі належным чынам. Менавіта гэтак: будзьце паслушныя дзяржаўнай уладзе, калі яна ад Бога, гуманная, калі дазваляе ўсім вам жыць „ва ўсякай пабожнасці і чысціні”. Падпарадкоўвацца трэба такой уладзе, якая разважліва і разумна кіруе дзяржавай ды народам, маючы на ўвазе агульнаграмадскае дабро і шануючы адметнасць і перакананне кожнага грамадзяніна.

Калі Хрыстос выказаў словы: „Аддавайце кесарава кесару, а Божае — Богу”, ён накіраваў іх не да сваіх вучняў, але да фарысеяў, якія лічыліся патрыётамі і выступалі за палітычную незалежнасць яўрэйскага народа. Калі заставацца ўступчывымі і рабалепнымі ў дачыненні да сваіх валадароў, многім з якіх месца ў доме вар'ятаў, а не на троне, у народа не было б чаго аддаць Богу. Прысутныя зразумелі, што кожнаму аддаваць трэба тое, што яму належыць аддаваць. Каб вярнуць доўг, трэба ведаць што аддаць і колькі. А што быў вінаваты іудзей кесару? Нават у самім Рыме кесару нічога легальна не належала. Пасля шматлікіх, бліскучых перамогаў, вярнуўшыся з Галіі, Юлій Цэзар захапіў уладу шляхам вайсковага перавароту. Такім чынам ён не быў законным валадаром Рыма і рымскай імперыі. Яго наследнікі, дэгенераты і тыраны, аграбілі жыхароў імперыі, жорстка душылі ўсякі бунт, карысталіся нявольніцкай працай і стварылі культ сваіх нібыта боскіх асобаў. Тут адразу само сабою накідаецца непасрэдная аналогія з бальшавікамі. Яшчэ менш належала кесару ў Палесціне. У 63 годзе перад Раством Хрыстовым Гай Пампей захапіў гэтую невялікую краіну, прынёсшы з сабой карупцыю і тэрор. Кесар не пабудаваў у Палесціне ніводнага будынка, ніводнай дарогі. „Аддаць кесарава кесару” было адмаўленнем узурпатару якіх-небудзь правоў... Калі б падчас II сусветнай вайны сказаць жыхарам Савецкага Саюза „аддайце Гітлерава Гітлеру”, яны ведалі б, што павінны зрабіць: даць яму ў шыю і выгнаць вон, бо яму не месца ў чужой краіне.

Беларусь таксама павінна ведаць, што заўдзячвае Богу і рэлігіі, а што крыжаносцам, татарам, гітлераўцам, бальшавікам, першым сакратарам у Маскве ды іхным Пілатам у Менску. Па сутнасці гісторыя паўтараецца і зноў існуе патрэба дакладнага асэнсавання, чым з'яўляецца наша зямная Айчына, што мы ёй абавязаны, а што абавязаны імператарам. Таму і актуальным застаецца евангельскі прынцып: „Аддайце кесарава кесару, а Божае — Богу”.

*(працяг будзе)*

**Канстанцін Бандарук**




## Чалавек чалавеку

ад вякоў чалавек чалавеку — зверам
не спачувае ў бядзе і нядолі
задае боль і смерць за ідэі
і нават у Божым імені
аценяе паводле колеру скуры

нікчэмным ворагам заве брата
заганяе яго ў клетку канцлагера
ганарыцца сваёй лепшасцю
цешыцца прыніжэннем ахвяры

але ж чаму чалавек чалавеку зверам
стаў а быў створаны братам
усяго жывога і адбіткам Бога

Аўрора




C h o r u ż y Wiesław: Białoruski drugi obieg w Polsce 1981-1990. Białystok 1994; KACZYŃSKI Andrzej, *Rzeczpospolita* z dn. 25-26.02.1995 r., nr 48(4001), s. 3.

CHMIELEWSKA Nina, NIESTIEROWICZ Andrzej, CZACHROWSKI Stanisław: The macroinverthebrate fauna of some Byelorussian, Karelian and Altaian springs and its relation with certain factors. *Acta Hydrobiologica* 1994, fasc. 1, s. 75-90, mapy, rys. tab. Rez.

JACKIEWICZ Mieczysław: Norwid — Staff — Leśmian po białorusku. *Kultura* 1994, nr 10, s. 96-99.

KOBYLIŃSKI Zbigniew, HESEL Zdzisław: Impots or local products? Trace element analysis of copperalloy artefacts from Haćki, Białystok Provice, Poland. *Archeologia Polona* 1993, vol. 31, s. 129-1400, rys. wykr.

LESZCZYŃSKI Jarosław T.: Miejsce jedności. (Zespół klasztorny w Żyrowicach). *Spotkania z Zabytkami* 1994, nr 8, s. 13-14, il.

LUSSA Andrzej: Na równi z innymi. Z prezydentem m. Białegostoku. rozm. przepr. "Monitor Białostocki". Uzup. Listy do redakcji: "Monitor Białostocki", RACEWICZ Józef, TULIBACKA Anna. *Gazeta Współczesna* z dn. 1.03.1995 r., nr 43(13195) dod. "Monitor Białostocki" nr 6, s. A, B; Polem. POTOCKI Wojciech: Gdzie jest Anna T. czyli... Monitor preparowany. *Kurier Poranny* z dn. 6.03.1995 r., nr 54(1347), s. 1; (e): Wróżka powiedziała. *Kurier Poranny* z dn. 17-19.03.1995 r., nr 64(1357), s. 24; Rep. WAPPA Eugeniusz: Oświadczenie Związku Białoruskiego w Rzeczypospolitej Polskiej w sprawie dodatku samorządowego ("Monitora Białostockiego"). Gazeta w Białymstoku z dn. 10.03.1995, nr 59(830), s. 2; *Gazeta Współczesna* z dn. 10-12.03.1995 r., nr 50(13202), s. 5.

SKARADZIŃSKI Bohdan: Z impresji wakacyjnych.(Białoruś i Ukraina). *Więź* 1994, nr 9, s. 180-184.

SZUSZKIEWICZ Stanisław: Malejące szanse. Z b. prezydentem Białorusi... rozm. przepr. Jan Strzałka. *Tygodnik Powszechny* z dn. 12.03.1995 r., nr 11, s. 7.

Š v i c j a ź - nowe czasopismo w Grodnie. Rec. MILEWSKI Jan Jerzy, *Białostocczyzna* 1994, nr 3(35), s. 125-126.

TRANSFORMACJA systemu organizacji i zarządzania w przedsiębiorstwie. Materiały z seminarium polsko-białoruskiego, Wrocław. *Prace Naukowe Akademii Ekonomicznej* 1994, nr 668, s. 1-82, rys. tab.

WAPPA Eugeniusz: Nie jesteśmy akceptowani. Z przewodniczącym Związku Białoruskiego w Rzeczpospolitej Polskiej... rozm. przepr. Marcin Biegluk. *Kurier Poranny* z dn. 16.03.1995 r., nr 63(1356), s. 3, foto.

WASILUK Jerzy: Szkolnictwo mniejszości narodowych w Polsce w okresie międzywojennym i po II wojnie światowej — próba porównań. *Zeszyty Politologiczne* 1994, z. 1, s. 66-92, tab.

WIELOPOLSKA Anna: Tępym nożem po szkle. (Konflikt Zarządu Miasta w Białymstoku z Białorusinami). *Rzeczpospolita* z dn. 7.02.1995 r., nr 32 (3985), s. 5; Polem. LUSSA Andrzej P.: Do redakcji. Odp. WIELOPOLSKA Anna: Od autorki. *Rzeczpospolita* z dn. 14.02.1995 r., nr 35.

P. C.




**Дарагія суайчыннікі!**

Ад імя Управы Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына”, шчыра віншуем Вас з вялікім святам беларускага народа — Днём Незалежнасці, які зрабіў для нас назаўсёды памятнай дату 25 сакавіка 1918 г.

Доўгім і пакутным шляхам ідзе Беларусь да волі, але і ў самыя змрочныя часы свяціла зорка надзеі, якую запалілі нашыя папярэднікі, абвясціўшы незалежнасць Беларускае Народнае Рэспублікі. І святло гэтай зоркі вядзе нас і сёння, калі хмары над нашаю Айчынаю не развеяліся і дасюль яшчэ існуе рэальная небяспека для існавання Беларускае Дзяржавы.

Таму яднайцеся пад бел-чырвона-белым сцягам дзеля ажыццяўлення ідэалаў 25 сакавіка.

Прэзідэнт ЗБС
„Бацькаўшчына”
**Р. Гарэцкі**
Старшыня Рады
ЗБС „Бацькаўшчына”
**Г. Сурмач**

## Адгалоскі

### АБ „ІКОНАХ" АЛЕСЯ БАРСКАГА

Мо і не пара селяніну, ужо і не маладому, хапацца за пяро, калі ўжо пара брацца за работу ў полі. Але паверце, сапраўды не магу стрываць, калі чытаючы „Ніву" безупынна на яе старонках знаходжу сваркі беларусаў паміж сабою. Гэта вельмі брыдка сведчыць аб нас. І так ужо частка беларусаў стала ўкраінцамі. Хто ведае, можа знойдуцца яшчэ і такія, што захочуць стаць неграмі? Але найбольш адпіхае тое, калі хтосьці ачарняе беларушчыну, а гэта таксама здараецца. Калісьці і мой зямляк, былы журналіст „Нівы", даказваў, што тутэйшы народ нельга называць беларусамі, бо быццам бы беларусы Беласточчыны — гэта невядома хто, без ніякай гісторыі і сваёй свядомасці. Пісаў гэты журналіст яшчэ і потым розныя опусы на тэму беларусаў, а праваслаўных святароў называў вельмі некультурна папамі. Адпор гэтаму журналісту вельмі трапна даў Сакрат Яновіч, які на старонках „Нівы" напісаў, што „ён так ведае беларускі народ, як раку Нарву, у якой ён толькі купаўся". А ці ж не? Гэты былы журналіст „Нівы" не карыстаўся, як я заўважыў, пашанай і сярод сваіх польскіх сяброў. Адзін з беластоцкіх журналістаў назваў яго „docent wyprzeniec", а польская журналістка парыжскай „Kultury" піша „docent P. zahaczył o wydział religioznawstwa na Uniwersytecie Jagiellońskim".

У апошнім часе некалькі тыдняў працягваў свае вывады пра іконы Алесь Барскі. Дзякаваць Богу, што хаця ўсю гэтую блытаніну закончыў ён перад Вялікім Постам. Ці ж праваслаўная ікона — гэта не вялікая частка нашай гісторыі — беларушчыны? А што можа пісаць чалавек (хоць ён і прафесар), які ў сваім жыцці не паставіў ніводнай свечкі перад іконай. Я ведаю, як у гэтыя гады, калі спадар Барскі здабываў адукацыю, цанілі вучняў, якія з варожасцю ставіліся да рэлігіі, тым больш што спадар Барскі гэтую пагарду да рэлігіі ведаў ужо з дзяцінства ад свайго бацькі. Людзі з такімі поглядамі ў тыя гады лёгка здабывалі добрыя пасады, ставаліся высокімі чыноўнікамі. Я моцна здзіўлены, што чалавек з вышэйшай адукацыяй так на гэта глядзіць. У сваіх разважаннях Алесь Барскі стараецца даказаць, што ікона не толькі што не берагла людзей у бядзе, але наадварот, прыносіла няшчасце. Аб гэтым прафесар Баршчэўскі стараўся некалькі разоў пераканаць чытачоў „Нівы". Між іншым апісвае як у І сусветную вайну першы нямецкі снарад разбіў батарэю, пры якой была ікона. Спадар Барскі, а ці ваш бацька добра ведаў гэтых афіцэраў, якія загінулі пры гэтай батарэі? Што яны былі за людзі ў прыватнасці? Паводле вашага меркавання, узяўшы ікону ў кішэнь найбольшы гультай, бандыт змог грабіць, мардаваць, а ікона павінна яго берагчы. Па-мойму хаця я і не прафесар, а просты селянін, то ікона можа памагчы ў бядзе чалавеку скромнаму, які верыць у Боскую моц. На гэта таксама ёсць доказы. Не так даўно „Ніва" пісала пра жыхара вёскі Кажаны, Юхнавецкай гміны, які ў І сусветную вайну, выязджаючы ў бежанства, забраў са сваёй царквы вялікую ікону. Абвазіў гэтую ікону некалькі гадоў па Расіі і цэлы вярнуўся з ёю ў родную вёску. А вядома што ў гэты час паграбжала за такі багаж. Ёсць прыклад і з маёй вёскі, толькі ў гэтым выпадку была не ікона, а крыж. Ужо пакойны мой сусед, Якім Апалінскі, у 1944 годзе быў забраны немцамі капаць акопы. Падчас бамбардзіроўкі ён і селянін з вёскі Паўлы Сяргей Алексяюк знайшлі напрастольны крыж 1860 года з Ржэва (у Расіі). Яны гэты крыж перахоўвалі, цэлы час будучы ў палоне, а потым шчасліва вярнуліся з ім у родныя вёскі. Гэты крыж — сведка цяжкіх падзей — і цяпер знаходзіцца ў нашай царкве. Падобных прыкладаў можна знайсці больш.

Пад канец сваіх разважанняў Алесь Барскі ў некалькіх сказах хоча апраўдаць сябе пішучы, што ў яго ў хаце ёсць ікона, раіць не прадаваць свае іконы, а наадварот, купляць іх на рынках. А ўсё ж такі Вы, прафесар Баршчэўскі, больш аплявалі — ачарнілі іконы ў сваіх даволі доўгіх разважаннях, чымсьці ў некалькіх сказах іх баранілі.

На маю думку то Вы, спадар Барскі, падыходзіце на аднаго з герояў „Тутэйшых" Янкі Купалы. Бо чытаючы Вашы фельетоны, ці як іх там назваць, „Ад пачуцця сораму да пачуцця гонару" ў пачатку 90-х гадоў, Вы сябе прадстаўлялі як абаронцу беларушчыны, апазіцыянера, быццам бы за Вамі сачыла бяспека і Вас вызывалі высокія чыноўнікі на дыван, але неяк падчас ваеннага стану нічога прыкрага Вам не здарылася. Цяпер, калі вятры падулі крыху з другога боку, то Вы зноў паказваеце, чаго навучыліся ў маладосці.

У былым магутным Савецкім Саюзе мільёны яшчэ больш заўзятых як Вы атэістаў больш за 70 гадоў знішчалі ўсё, што звязана з рэлігіяй, сцвярджаючы, што ўсё зло, няшчасце — з яе прычыны і пабачце чым яны сталі. На Захадзе, хаця я там не быў і не буду, але як расказваюць тыя, хто там пабываў, то з верай таксама па-рознаму бывае. Але той хто і не верыць у Бога, то не перашкаджае веруючым, а рэлігію шануе як цэнную спадчыну іх продкаў і тым ганарыцца.

А якая розніца ва ўзроўню жыцця паміж двума гэтымі светапоглядамі?

**Лявон Федарук,**
**Рыбалы**

# Адкрыты ліст бурмістру Бельска-Падляшскага Андрэю Сцепанюку

У знак сваёй пашаны да службы бурмістра і асабіста да мгр А. Сцепанюка, маю гонар рэкамендаваць ніжэйпададзенае:

**1. КУРГАН.** Прапаную яго насыпаць у цэнтры плошчы, што ля гарадзішча „Замкавая Горка". У самім падножжы паставіць камень з мемарыяльнай дошкай у гонар беларусаў, якія зараз правяць горадам, а менавіта — мгр Андрэя Сцепанюка, бурмістра г. Бельск-Падляшскі і мгр Васілья Ляшчынскага, старшыні Гарадской рады Бельска-Падляшскага.

Першыя 2—3 аўтамашыны зямлі трэба прывезці з кар'ера. Рэшту давязуць з катлаванаў пад фундаменты розных будаўніцтваў, што праводзяць у г. Бельску-Падляшскім. Апрача гістарычнага, такі курган будзе мець значэнне эстэтычнае.

**2. ГАРАДЗІШЧА „Замкавая Горка".** Гістарычны помнік XI—XII стагоддзяў, пабудаваны ў часах заснавання горада Бельска-Падляшскага. Пастаўлены перад „Замкавай Горкай" абеліск з сілезскага чырвонага пясчаніку — тыповы фальсіфікат.

У сувязі з гэтым я прапаную напісаць гістарычны нарыс аб „Замкавай Горцы". Да гэтага неабходна далучыць падрабязны тапаграфічны план аб'екта. Каб выканаць геадэзічныя меранні, трэба стварыць трывалы **ПАЛІГОН** з жалезнабетонных слупоў 150—160 см даўжыні і 15 х 15 см таўшчыні. У цэнтры слупа павінен быць устаўлены жалезны шпень з фаскай уверху. Рэпер — паставіць ля маста з чыгуначнай рэйкі даўжынёю 180—200 см. Зрабіць дакладную нівеліроўку цераз 1—0,5 м з адлікам 1 мм па вертыкалі. Лініі тапаграфічнага даследавання — перакрыжаваць. Атрымаем поўны геамарфалагічны вобраз „Замкавай Горкі" ў цяперашні час. Як гістарычны дакумент будзе служыць вечна для захавання ды магчымага змянення вышынных пунктаў экзагеннымі сіламі прыроды. Выкананне тапаграфіі горкі бяру на сябе праз Таварыства аховы помнікаў.

**3. КАМЯНІ.** Пастаўленыя перад магазінамі на газонах павінны аставацца на сваім месцы. Не чапаць групы камянёў у скверы перад помнікам ахвярам II сусветнай вайны 1941—1945 г.г.

Трэба давезці ў Бельск-Падляшскі некалькі дзесяткаў больших камянёў у парк, перад Беларускім ліцэем і Пачатковай школай н-р 3. Яны там былі. Іх забралі і вывезлі ў кар'ер Аўгустова, што ля дарогі Бельск—Арэхвічы.

За перашыйкам Беларускага ліцэя і Школы н-р 3 выбудаваць, пакуль што, піраміду з камянёў, там дзе стаяў курган. Пасля, магчыма, капліцу. Гэты аб'ект быў месцам вечнага спачыну загінуўшых жыхароў ад чумы і халеры ў 1657 г. Летам 1960 года Я. Кастыцэвіч знішчыў гэты курган. Неабходна паставіць на камянях мемарыяльную дошку ў гонар аб'екта, што быў месцам пахавання ды з інфармацыяй хто яго знішчыў. Ніхто не меў права нішчыць яго!.. Якія гучныя пахвалы не былі б накіраваны ў адрас Кастыцэвіча — ён нясе асабістую адказнасць за злачынства ім учыненае. Ніхто з нас не можа звольніць ад абавязку ўшанаваць памяць загінуўшых.

**4. АЗЕЛЯНЕННЕ.** Каля Музея — пустата. Была там жывая агароджа ды сетка з бетоннымі слупамі. Якісьці бюракрат з Беластока, загадаў усё знішчыць. Подласць ягоная пашырылася і на агароджу ля сквера, што перад помнікам ахвярам II сусветнай вайны 1941—1945 г.г.

Знішчаны ўсе хмызнякі ў парку ля Беларускага ліцэя і Пачатковай школы н-р 3, а таксама каля эстрады пад „ракавінай". Неабходна загадаць вярнуць жывую агароджу ля Музея і ў парку. І ў далейшым, найстражэйшым чынам забараніць іх знішчэння. Усякая ачыстка галінак на дрэвах у парку выклікае знішчэнне натуральнай формы дрэвастою. Трэба і гэта залічыць да вандалізму. Ва ўладанні бурмістра ёсць не дапусціць да гэткіх шкодных учынкаў.

Зменшыць колькасць працуючых у прадпрыемстве азелянення горада. Яны не маюць што рабіць, ды нішчаць дрэвы і хмызнякі ў горадзе.

**5. АСЕНІЗАЦЫЯ ГОРАДА.** Подласць і дурнота людзей, якія валодаюць светам, не толькі ў разбуральных войнах і меліярацыі. Апошняе пачыванне „мудрацоў старажытнай Грэцыі", перарабляючых гідратэхнікай прыроду, выявіла іх „плён" у Заходняй Еўропе. Жудасныя паводкі 1995 года ёсць вынікам гэтай бязглуздзіцы.

Узяць бы такую „дробязь" як бутэлькі. Ніяк не могуць дагаварыцца краіны свету, каб іх уніфікаваць, гэта значыць выконваць аднолькавыя.

Прыгожыя вырабы выкідаюць на сметнік. А скольki ж патрачана на іх выраб паліва, матэрыялу і працы?!. Цяпер закідаюць бутэлькамі свет...

А гэтая шматлікая маса паперы з упаковак, газеты і часопісы, што ідуць на сметнік? Ці магчыма на гэта глядзець абыякава?! А колькі лесу трэба знішчыць, каб стварыць гэта?

Прапаную пабудаваць асобныя памяшканні каля існуючых сметнікаў. Такое памяшканне павінна мець высока ўверху адтуліну на скіданне макулатуры — каб дзеці не сыпалі туды смецце. Уваходныя дзверы павінны быць зачынены на замок. Забяспечыць усё шыльдай, што загадвае выкананне вышэйпададзенага.

**/-/ інж. Рудкоўскі Барыслаў Ф.**
**Лаўрэат Залатога Медалю**
**міністра культуры**
**за тапаграфічныя**
**даследаванні помнікаў**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

### Частка V

Прывяду апошні фрагмент выказванняў Піліпа Карэткі аб яго разуменні Радзімы і перспектыў Беларусі на незалежнасць:

„Я крыху, брацішку, як бы забыў аб тваім пытанні касацельно родзіны. Ну, яно ведомо тое, што я табе расказваў, то было звязано з родзінаю, але я яшчэ мог бы тое-сёе дабавіць. То значыцца так, калі я ўжэ ў 1922 року вярнуўся ў сваю вёску, то аказалосе, што там ні кала, ні двара. То чым я мог заняцца? Ну, то значыцца, заняўся я гандлем. У часе рэвалюцыі ў Мінску то за спекуляцыю расстрэлівалі, а Польшча санацыйна то барані Божа, нікому гандляваць ні перашкаджала: — гандлюй сабе на здароўе! От, то я значыцца, і гандляваў! Куды я ні ездзіў? У Ваўкавыск, і ў Свіслач, і ў Зэльву, і ў Бераставіцу, і ў Брэст, і ў Пружаны, і ў Гайнаўку, і ў Нараўку. І ты знаеш, брацішку, калі я так валачыўся то, ведомо, спатыкаў много людзей, разумных людзей, парадачных і праўдзіву сволач! От, ведаеш што брацішку, калі я так параўноўваў наш народ з часу перадваеннаго і, значыцца, перадрэвалюцыйнаго з народом тым, каторы жыў у санацыйнай Польшчы, то, гэто былі як бы два разны народы. Тыя беларусы з перад рэвалюцыі то яны ні чарта ні знали, што яны беларусы, а гэты пасляваенны то ўжэ добрэ знали, што яны ні рускі, ні палякі, а толькі беларусы. Ну, яно ведомо, што ні ўсе такіе ужэ моцно свядомы сталі, былі і забіты зусім, значыцца цёмные, але многі то ужэ моцно стаялі за сваё. Ты знаеш, брацішку, точно табе ні скажу, але дзесь так можэ ў 1924 року, а можэ крыху пазней то на нашай усёй церытарыі пачала стварацца арганізацыя, катора называлася Беларуска грамада. І ты знаеш колькі беларусаў у яе запісаласё? Тысячы. Пачці што ў каждой вёсцы былі грамадоўцы. Быў запісаўся і я, але ні на доўго, бо давядаўся аб гэтым камендант паліцыі, прыехаў да мяне і сказаў: „Panie Karetko, chcesz pan prowadzić swój handlowy interes, czy może już nie chcesz? Jeżeli będziesz pan nadal w tej wywrotowej organizacji to po pierwsze wybiję panu zęby, a po drugie cofnę zezwolenie na handel. Mam nadzieję, że powiedziałem wszystko jasno?!"

Ты знаеш, брацішку, з гэтым камендантам жартаў ні было, я ні раз бачыў як ён лупіў мужыкоў, ну то я ўзяў і з гэтае Беларускае Грамады выпісаўсе. Ну, але ведомо, многіх тых, хто належалі то я знаў. То ты знаеш брацішку, гэты грамадоўцы, бо так іх людзі называлі, то вялі моцну беларуску прапаганду. Ну, знаеш, не слабшу, чым тыя беларусы ў час рэвалюцыі. Чаго толькі яны не гаварылі! Перад усім даказвалі, што нашы землі, значыцца, трэбо адарваць ад Польшчы і прысаедзініць да Савецкае Беларусі. І вельмі яны ўжэ моцно хвалілі Савецкі Саюз. Даказвалі, што там і наука бясплатна і медыцына бясплатна і мужыкам добро жывецца і ўсюды там беларускі школы. Ну, адным словам праўдзівы рай! І ты знаеш, брацішку, людзі верылі і верылі, што можно, значыцца, гэту польску буржуазію перадушыць і кандзі ў воду. Ну, многі то навет нелегально праз граніцу ў Савецкі Саюз хадзілі і ўсё гэто падцвярджалі. Але знаеш, брацішку, усё вышло па другому. Дзесь так можэ ў 1927 або 1928 року то польска паліцыя разагнала гэту Грамаду к чортавай мацеры. І касу забрала, і спіскі забрала і флагі парвала. Многіх папалупілі, многіх арыштавалі і наступіў Грамадзе капут. Многі маладыя, праўда, уцяклі ў Савецку Беларусь.

А ты знаеш, брацішку, можэ праз якія два чы тры рокі дашлі да нас слухі, што саветы ў сябе усіх гэтых сазнацельных беларусаў паарыштоўвалі, павысылалі ў лагеры або навет і парасстрэльвалі.

От табе, брацішку, і маеш нашу незалежну родзіну! Не, Баршчэўскі, ні палякі, ні рускі ні дадут нам свабоднае родзіны. Можэм у іх толькі парабкамі быць і ўсё. Ты ні думай, што калі ты закончыў сваё універсітэты, то ты будзеш ужэ роўны з польскім панам, чы рускім гаспадзінам. Не, брацішку, раней ці пазней возьмут за жабры, я так думаю, а ты, брацішку, думай як сабе хочаш. Ну і на заканчэнне, брацішку, яшчэ табе скажу адну штуку. Мы нічого ні зробім і ні даб'емсе тае незалежнасці, бо мы сілы ні маемо. От, вазьмі ты, хоцьбы мяне. У 1917 року то я моцно сачуўстваваў тым беларускім дзеяцелям, што заседалі ў цеатры і хацелі, каб Беларусь была вольна. Значыцца, я думаў так, як і яны. А што я рабіў?. А я, брацішку, іх разганяў, бо так прыказаў палкоўнік. От і ўсё тут! Сілы мы ні мелі і ні маем, а светом кіруе той, хто мае сілу. Ну, а гэты палякі і рускі то яны сплашныя палкоўнікі! От і ўсё, брацішку!"

**Алесь Барскі**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Сніцца мне, што я знаходжуся недзе над морам. Не ведаю, ці ў санаторыі, ці ў доме адпачынку, ці ў нейкім загранічным гатэлі. Мора не бачу, але бачу прыбярэжныя ўзгоркі, парослыя соснамі, крутыя сцяжынкі.

Раптам я апынулася ў чужым пакоі. Бачу, што незнаёмыя мужчына і жанчына спяць на шырокім ложку, а на самым беражку ляжыць немаўлятка. Яно, відаць, было раней захутана ў цёплую пялёнку, але цяпер пялёнка расхілілася, дык дзіцятка ляжыць голае і мне здалося, што вось-вось яно можа скаціцца з ложка.

Ну, дык я падышла бліжэй, узяла на рукі дзіця, закруціўшы яго ў пялёнкі і ўлажыўшы ў рот соску, занесла яго да сябе ў пакой. Там я яго захутвала, трымала на руках, клала на ложак.

У пэўным моманце я выйшла з пакоя. Ізноў навокал узгоркі, лес, цяжка ўзысці наверх.

Вяртаюся ў пакой, а дзіцятка, накрыўшыся з галавой, амаль не дыхае. Я перапужалася, што яно памерла, а я ж так хацела дапамагчы яму, каб хаця яно не замерзла і не звалілася з ложка, на якім спалі яго бацькі. Я пачала прытуляць да сябе гэта дзіцятка і бачу, што яно жыве. Я шчаслівая.

І раптам уваходзіць у мой пакой нейкі падлетак (быццам ён з сям'і таго дзіцяці) і, забіраючы дзіцятка, дае мне цэлую сетку сосак. Кажа, што пэўна я ўзяла дзіця, бо надта мне хацелася мець яго соску.

Мне вельмі крыўдна. Я гэтаму дзіцяці хацела толькі добра.

Анэта

Анэта! Твой сон сведчыць аб тым, што ў цябе ёсць нейкія праблемы. Тыя ўзгоркі, крутыя сцежкі, беспадстаўныя абвінавачанні сведчаць аб гэтым. А мо кепскі стан твайго здароўя выклікае гэтыя сны.

**АСТРОН**

## Між намі

Захварэлі Віцевы цяляты. Пазваў ветэрынара. Днём цяляты хадзілі на лузе. Каля луга раслі высокія тапалі, а на іх сядзелі каршуны. Паглядзеў лекар на цялят: малыя, худыя...

— Ну, пан Віктар, вы — гаспадар добры. Вельмі добры...

Віця, рады, усміхнуўся.

— Але гэтых цялят вы павінны добра пільнаваць...

— Чаму?

— Каршуноў тут столькі, што раз-два пахапаюць вашых цялят і ў пяць хвілін паядуць!

* * *

Доўга не быдлавала Іванава карова. Жонка Івана, Каська, пазвала ветэрынара. Паглядзеў урач карову і пытае:

— Чым вы яе корміце?

— Сенам.

— То карміце свайго Івана поснай капустай увесь месяц і пабачыце, чаго яму будзе хацецца.

* * *

— Вось час прыйшоў, — наракае Марко, — што людзі нічога не баяцца. Турма ім нястрашная, ды і месца для ўсіх злачынцаў там не хопіць. Страх дома трымаць нешта дарагое...

— А нашто дарагое? — дзівіцца Юлік. — Хопіць табе стол, драўляныя крэслы, шклянкі са слоікаў з-пад гарчыцы і яшчэ сёе-тое, і будзеш спаць спакойна, ніхто не пакваліцца...

* * *

— Ці выйшла б ты замуж без кахання? — пытае старэйшы кавалер маладую панну.

— Ага. Сапраўднае каханне не сустракаецца. Але абы ты быў багаты і добры для мяне...

**Аўрора**

## ВІРАВАНКА



1. папулярны спорт, 2. спартсмен ад мардабою, 3. горад над Шчарай, 4. начны адпачынак, 5. індаеўрапейскія плямёны, якія ў I тысячагоддзі жылі на захадзе Еўропы (іх жрацамі былі друіды), 6. свята пасля Вялікадня, 7. жэрдка ў куратніку, 8. паказвае фокусы, 9. прыгажун, 10. раскол, раздзел царкваў, 11. сігнал на школьны перапынак.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 8 н-ра:**

**Гарызантальна:** шпік, камар, апалак, урон, казак, аканне, прыдатак, кукса, кальрабі, Мурманск, увага, габарыты, амплуа, агонь, Ржэў, Глінка, адказ, конь.

**Вертыкальна:** марабу, калапс, парадокс, канат, сорак, багна, Кракатау, Калькута, Комі, курс, хата, „Ніва", акардэон, выгада, ганчар, смала, гліна, барак.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Красоўскаму з Бельска-Падляшскага і Лукашу Пацэвічу з Беластока.**




### Вясна

Вясна! Многа цяплей,
На дворы прыгажэй.
Прырода прачынаецца,
Сонейка падымаецца.

Трава зелянее,
Лес прыгажэе,
Цвітуць ужо кветкі —
Выпадак нярэдкі.

Подых вясны ўжо чуваць —
Трэлі птушак гучаць
І качкі ў нетрах
Робяць гнёзды сакрэтна.

Гусі ўжо прыляцелі,
Крыламі зашумелі
І, каб галасней гагатаць,
Нізка над намі ляцяць.

Штодзень вяртаюцца ўсё іншыя
Птушкі — вялікія і меншыя.
Гэта нашы сябры —
Трэба з імі жыць у любві.

Ручайкі звонка бурляць
І прыгожа шумяць —
Гэта веснавыя воды
Усюды знайшлі свае ходы.

Плывуць у рэкі, азёры,
Далей — у магутнае мора.
І так, кругом і далей,
Па-веснавому, смялей.

Таксама звяры па лясах,
Па дубровах, лугах,
Ачнуліся, пачулі свой час,
Інстынктаў прыказ.

Нас збудзіла вясна таксама —
Гэта пара дасканалая
Каб свае крылы падняць
І жыццёвую ролю сыграць.

Чакаем на бусла вяртанне
І яго клекатанне
Як ляльку з распусты
Прынясе ў капусту.

**Мікалай Панфілюк**

<u>Легенды нашай зямлі</u>

## Жывая вада

Калісьці ў вёсцы Сасіны (зараз Боцькаўская гміна) была старая царква. Каля яе плыла невялічкая крынічка. У гэтай крынічцы была жывая вада. Прыходзілі да ручая хворыя людзі і калекі. Хворыя, памыўшыся гэтай вадою, ставаліся здаровымі, калекі — не мелі ўжо фізічных заган і былі паўнацэннымі людзьмі.

У тым часе ў Сасінах жыў пан Сас. Меў ён прыгожую, але ўпартую і распусную жонку. Захацелася ёй у ручаіне выкупаць чорнага велізарнага сабаку. Калі яна ўкінула ў паток нячыстую сілу — сабаку, каб яго выкупаць, маментальна ручай запаў пад зямлю. На тым месцы можна было ўбачыць толькі лапінку мокрага пяску.

Калі пра гэта даведаліся людзі, прыйшлі яны на месца ранейшай ручаіны і пачалі капаць, але да вады так і не дакапаліся. Не дакаваліся і па сённяшні дзень жывой вады. А на месцы даўнейшага ручая цяпер нават у найбольшую засуху заўсёды мокра.

*Запісаў*
**Янка Целушэцкі**




### Як садзіць памідоры

Памідоры можна садзіць на кожнай глебе. Пазбягаць аднак жа трэба пасадкі памідораў на той глебе, дзе яны ўжо раслі, а таксама пасля бульбы, таму што існуе небяспека развіцця хвароб.

Найлепш садзіць раннія гатункі памідораў і тады, калі не існуе ўжо магчымасць замаразкаў, бо памідоры вельмі на іх чулыя.

Поле пад памідоры арэм восенню, а ўвесну — пружынуем і барануем. Памідоры карысна садзіць на другі год пасля гною. Ужываем яго ў колькасці 40 цэнтнераў на 0,10 га. У агародах вельмі карысна прымяняць перагнілы гной пад „корань", гэта значыць — у выкапаную ямку кладзем гной, прыкрываем яго зямлёй і на гэтым садзіцца саджанец памідора.

Штучныя ўгнаенні найкарысней даваць пагалоўна, ужываючы іх сумесь у наступных колькасцях:

1 частка сульфату амонію,
1 частка 40% калійнай солі,
2 часткі суперфасфату.

Не рэкамендуецца ўгнойваць памідоры багата азотам, таму, што азот спазняе пладанашэнне.

Расаду памідораў падрыхтоўваем у парніках або скрынках. Маладыя раслінкі абавязкова аднак жа рассадзіць, каб да пасадкі на загоне адпаведна падмацаваліся. **Насенне памідораў высяваем у канцы сакавіка або на пачатку красавіка.**

Памідоры садзім на загоне **пасля 20 мая**. Расадкі садзім у адлегласцях ад 50 да 100 см. Гатункі прыземістыя садзім гусцей, а высокія — больш рэдка. Перад пасадкай расаду моцна паліваем вадою. (У выпадку сушы падліваем яшчэ зараз пасля пасадкі). Садзіць трэба пад рыдлёўку, моцна ўтоптваючы рукамі зямлю ля карэння.

Палікуем памідоры наступным чынам. Убіваем калочкі так, каб утварыць квадраты і зверху іх прымацоўваем дрот, а яшчэ лепш — тонкія тычачкі, аб якія маюць абапірацца карчы памідораў. Можна прывязаць карчы, але свабодна.

Часта людзі ў нас не ведаюць, што трэба абцінаць корчыкі памідораў, каб раслі дародныя плады. Абцінаем расткі з мэтай, каб атрымаць менш, але добрых пладоў. Можна пакідаць толькі 3 расткі, г.зн. галоўны і 2 пасярэдзіне, а найлепш — 2-гі і 3-ці, што растуць ад зямлі. Ніколі нельга абцінаць здаровых лісцяў. Гэтае, зрэшты адносіцца не толькі да памідораў — адбіраецца тады расліне (як можна гэта назваць коратка) нармальнасць працэсаў дыхання, а што за тым ідзе — і жыцця.

У канцы жніўня можна абцяць вярхі памідоравых корчыкаў над апошняй завязанай гронкай.

Дагляд за памідорамі заключаецца затым на знішчэнні пустазелля і на змякчэнні глебы паміж радкамі.




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# ПАРОДЫІ

*Вінцук Асьцюк*

## Голы, але — арол

*Я вольны, як птушкі,*
*Я гол як сакол.*
*Сабою не важкі,*
*Душою — арол.*

**(Песня Валацугі, Сяргей Іваноў)**

Я смелы, як куля,
Я востры, як нож.
Нібы сторублёўка
Сабой я прыгож.

Я самы вялікі,
Я моцны, як леў.
Сабою не важкі,
Бо сёння не еў.

Я хаты не маю,
Не маю двара.
Мне хутка за трыццаць —
Жаніцца пара.

Я вольны, як птушкі,
Я гол як сакол.
Любіце, дзяўчаты,
Душой я арол.

Я буду паэтам,
Я праўду кажу.
Я здольны, як Пушкін,
Я песні пішу.

## СЕНТЭНЦЫІ

На глыбіні трымайся берага.

* * *

Крык нованароджанага дзіцяці — гэта рэха з першых хвілін свету.

* * *

Калі гаворыць эгаізм, словы мала значаць.

* * *

На брукаванцы свету людская кроў заўсёды была танная. І ўсё танее.

**Барыс Руско**

## Паверыла

— Ты дзе, мой мілы, ноч правёў? —
Спытала жонка ў мужыка.
— Ат, сонейка маё, зайшоў
Я вечарам да сябрука.
Па чарцы ўзялі, па другой...
А потым пацякло, як з рога.
Так налізаўся дрэні той,
Што цяжка ўстаць было на нозі.
— За шчырасць дзякую, мой мілы.
Я сябрукам тваім званіла.
Знайшла траіх,
І кожны з іх
Сказаў, што начаваў ты ў іх.

**Мікола Каралёў**

# НІЎКА

*Заклінальнік змей.* **Мал. А. Гіргеля**

*Савелій Цыпін*

## ПЛАВАННЕ

Сёння ў маці пасля работы сход, і маленькую Лесю Чарняўскую ў закрыты басейн „Залатая рыбка" адводзіць бацька. Пакінуўшы ў раздзявальні рэчы, дзяўчынка бяжыць да вады. Там ужо сабраліся дзеці, якія навучыліся плаваць раней, чым хадзіць.

— Вас хацела пабачыць Лія Харытонаўна, — кажа трэнер Чарняўскаму.

„У чым справа? — падумаў той. — Бо за навучанне я заплаціў, як належыць, за месяц наперад".

Чарняўскі заходзіць у кабінет. У ім ён быў два месяцы назад, калі ўладкоўваў Лесю ў басейн. Дырэктарша, пышная шатэнка, якая ўжо даўно сваё адплавала, сустракае госця з ледзяной суровасцю:

— Тарарыш Чарняўскі, у мяне да вас, так сказаць, канфідэнцыяльная размова. Як кажуць, тэт-на-тэт. Адкажыце, ці хочаце вы выхаваць сваю дачку чэснай.

— А як жа, — занепакоіўся бацька, бо ўспомніў, што ў раздзявальні не раз знікалі дзіцячыя рэчы, але пры чым тут Леся?

— А які, даруйце, вы паказваеце ёй бацькоўскі прыклад? — з націскам прамовіла дырэктарша. — Не разумееце? Ці робіце выгляд? Калі вы прывялі да нас сваю дачку, у малодшую групу „жабяняты" мы маглі прыняць толькі адно, — яна зводзіць палец, абцяты бліскучым, як сляза, каштоўным каменьчыкам, — адно дзіця. Вам гэта вядома?

— Чуў.

— А вы ведаеце, што на тое адно месца было, акрамя вас, яшчэ пяць прэтэндэнтаў: інжынер, урач, піяніст і нават прыбіральшчыца з магазіна падпісных выданняў. А мы аддалі перавагу вам. Як думаеце, чаму?

— Мабыць, лепшыя дадзеныя?

— Так, лепшыя. Але не ў яе, а ў вас. Бо вы паведамілі, што працуеце запраўшчыкам на бензакалонцы! А кім выявілася на самай справе? Сорамна сказаць: прафесар, доктар біялагічных навук. Цьфу! Сам выхавацель моладзі, а пайшлі на такі падман.

— Я пажартаваў, — пачырванеў мужчына так, быццам яго зніянацку абдалі кіпнем.

— Нічога сабе жарцік — я збіраюся пра гэты ваш ганебны ўчынак паведаміць вашаму рэктару...

— Не трэба, — шэпча прафесар. — Я пайшоў на гэта толькі дзеля здароўя сваёй дачкі. Абяцаю вам — выпраўлю сваю правіннасць. А гэты факт няхай застанецца як вы сказалі „тэт-на-тэт".

— Добра, чаго ўжо там, — згадзілася дырэктарша і ўсміхнулася, адкрываючы рад жамчужных зубоў. — Хіба я не чалавек? Вунь у мяне таксама расце дачка. У гэтым годзе пераплывае дзесяцігодку. Марыць стаць біёлагам.

*Пераклад з украінскай*
*Валерыя Бабея*

## Смех у санаторыі

Гутараць дзве сяброўкі:

— Не маю шчасця ў жыцці, — наракае адна.

— Чаму?

— Бо, бачыш, калі сустрэну мужчыну майго жыцця, то або ён жанаты, то я акурат замужам.

* * *

— Выбачайце, ці ваш муж дома? — пытае гаспадыню маладая дзяўчына.

— Няма. А што вы ад яго хочаце?

— Хацела б аддаць яму хустачку, якую ўчора мне пазычыў.

— У вас быў насмарк?

— Не, толькі ўчора, калі выходзіў з маёй хаты, я расплакалася.

* * *

— Ці не хацелі б вы стаць сонейкам майго жыцця? — прапануе руку прыгожай дзяўчыне назойлівы адаратар.

— Чаму не. Толькі не забывайце тады трымацца ад мяне на адлегласць 150 мільёнаў кіламетраў.

* * *

— Ці чулі вы, што наш сусед з гары аглух два месяцы таму?

— Гэта страшна! А як гэта перажывае яго жонка?

— Яна яшчэ гэтага не заўважыла.

* * *

— Варка, ты надта хутка выдаеш грошы.

— Нічога падобнага — гэта ты надта мала зарабляеш.

* * *

У прыёмную гасцініцы прыходзіць прытуленая пара і просіць двухмесны нумар.

— Ці вы пажэнены?

— Так, і то абое.

* * *

— Як удаўся тваёй жонцы першы абед?

— Лепш не пытайся — нават кухарскую кніжку прыпаліла.

* * *

— Як ты мог пайсці на работу ў дзіравым світэры?! Што падумаюць твае сябры?!

— А што яны падумаюць? Яны таксама жанатыя.

* * *

— Валодзька, чаму ты не прыехаў учора на рыбалку? Мы ж дагаварыліся...

— Не мог завесці самаход.

— Знайшоў прычыну?

— Так, жонка схавала ключы.

* * *

А сёмай гадзіне раніцы дырэктар прыходзіць у свой кабінет і бачыць, што за сталом сядзяць яго намеснік і шэф прафсаюзаў ды п'юць гарэлку.

— Ці вы пашалелі?! Гарэлка на рабоце...

— Пан дырэктар, мы даведаліся што ваша сакратарка аднак не зацяжарыла.

— То наліце і мне.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Шаноўнае Сэрцайка! Усё здарылася, як у фільме. Так-так, сапраўды глядзела я калісь чэшскі фільм пра каханне васьмідзесяцігодкаў, калі не памыляюся, называўся ён „Пекны лістапад". Гэты фільм я бачыла тады, калі мне яшчэ гадоў пяцьдзесят усяго было. Скажу праўду: я глядзела яго з прыемнасцю, але і з нейкай дозай здзіўлення: няўжо ў восемдзесят гадоў людзі хочуць яшчэ кахацца...

Але тады я яшчэ была маладая і жыў мой муж. Сёння мне ўжо семдзесят пяць, я — удава.

Як адзінокі можа быць чалавек без мужа, хаця выхаваў трое дзяцей, толькі я ведаю. Усе яны дарослыя, ва ўсіх свае сем'і, заняткі, а найгорш — што ўсе параз'язджаліся ў розныя бакі Польшчы. Пакуль жыў муж, усе прынамсі на свята збіраліся ў нас, а цяпер... Дом мой стаў халодны без дабрадушнага пабурквання мужа, без яго жартаў і дабрыні. У хаце стала неяк пуста, хаця не паменшала мэблі. Атмасферу ствараюць усё ж людзі!

Адзінай радасцю майго шэрага жыцця былі сустрэчы — хоць на могілках — з мужам. Калі было цёпла, я гадзінамі праседжвала там на лавачцы і, гледзячы на яго фотакартачку, размаўляла ў думках з ім. Расказвала ўсё пра сябе, пра дзяцей, як яны жывуць. Жалілася перад ім, калі нехта ўчыніў мне крыўду.

Аднойчы, калі я так, расказаўшы ўсё, пыталася ў мужа, ці не маю я рацыі, пачула ззаду голас: „Ты мела рацыю, вядома!" Я адвярнула галаву і ўбачыла пажылога чалавека, які стаяў за мною. Даўно ўжо назіраю за вамі, сказаў ён. Здаецца, вы адчуваеце сябе надта самотнай. Я і раней бачыла гэтага чалавека, але мне і ў галаву не прыходзіла пачынаць з ім гаворку. Не да размоў мне было. Толькі з аднымі суседзямі з блёку я зжылася за апошнія гады. Дык да іх заходзіла, яны мне часамі ў нечым памагалі, а я ім таксама часта пільнавала хату ці дзіця.

Ад таго часу мы з тым чалавекам з могілак пачалі вітацца. Пасля пачалі гутарыць, разам ішлі дахаты. Мала-памалу, і я ўжо не магла ўявіць сабе, што можна прыйсці на могілкі і не сустрэць там яго, седзячага каля магілы жонкі. Ён яе часта ўспамінаў, а я расказвала пра свайго мужа. Кожны дзень я пачала вітаць з радасцю, бо ведала, што нехта мяне чакае. Ізноў хацелася жыць.

І сталася. Ён застаўся ў мяне нанач. Не хацелася позна вечарам вяртацца ў сваю, пустую хату. І ад таго часу ён ужо амаль увесь час са мною. Памалу папераносіў да мяне найбольш патрэбныя яму рэчы. І мне цяпер весялей. Ды і яму лепш. Я і памыю яму бялізну, і абед звару. Не скажу, і ён стараецца мне ва ўсім дапамагаць. Не клічу цяпер ні электрыка, ні гідраўліка — усё ён направіць сам. Яшчэ ён зусім моцны, хаця стукнула яму ўжо восемдзесят.

Не ведаю, ці ўсё гэта можна назваць каханнем, але нам разам добра. Але здарылася ў апошні час бяда: у мяне пачала выпадаць матка. Я чула, што такую хваробу маюць і маладыя жанчыны, але мне ж ужо за семдзесят. Ну, пайшла я да доктара. Там паглядзелі і сказалі, што трэба матку падшыць, а найлепш было б зашыць там зусім.

Я абурылася: як гэта так, я ж маю чалавека, яму восемдзесят і ён мае яшчэ свае патрэбы! Ну, дык мяне там паслухалі і наглуха не зашывалі.

Калі я расказала пра ўсё гэта сваёй маладзенькай суседцы, яна ледзь устрымалася ад смеху. Мне было прыкра. Столькі ж часу мы знаёмы, а ніколі я не падумала, што яна такая дурная. Лекары мяне зразумелі, а яна — не!

Ад таго часу я менш заходжу да суседзяў. То што, яна думае, што калі ёй трыццаць пяць, а мне на сорак гадоў больш, дык я ўжо не чалавек?!

**Даміцэля**

Даражэнькая Даміцэля, усе мы людзі. І тваё шчасце, што ў вашыя гады гэтыя справы вам не чужыя. Лекары нават раяць як мага даўжэй культываваць сексуальнае жыццё. Гэта дае чалавеку ўпэўненасць, псіхічнае здароўе, ён адчувае сябе мацнейшым. Толькі павіншаваць твайго васьмідзесяцігодка!

Ага, высокі ціск крыві і хваробы сэрца, здаецца, пры гэтым супрацьпаказаны.

**СЭРЦАЙКА**